ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

ОРГАН
НАРКОМАСВЕТЫ
І ЦК САЮЗА
ПАЧАТКОВЫХ
І СЯРЭДНІХ
ШКОЛ
БССР

№ 6
1935

ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# Комуністычнае выхаванне

ОРГАН
НАРКОМАСВЕТЫ
І ЦК САЮЗА
ПАЧАТКОВЫХ
І СЯРЭДНІХ
ШКОЛ
БССР



ЧЭРВЕНЬ
№ 6
1935

ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

*Фрэйдман Ю.*

# Вышэй якасць вучэбна-выхаваўчай работы

Вынікі мінулага навучальнага года паказалі, што школы Совецкай Беларусі па шляху ліквідацыі «карэннага недахопу», па шляху падняцця якасці вучэбна-выхаваўчай работы значна прасунуліся наперад.

Аднак дасягнутыя поспехі нас не задавальняюць, бо наша школа ўсё яшчэ адстае ад тых патрабаванняў, якія да яе прад'яўляюцца партыяй і ўрадам. Процант другагодніцтва па рэспубліцы ўсё яшчэ астаецца вялікім (8,3). У наступныя класы пераведзены толькі 84 проц. вучняў. На нізкім узроўні яшчэ стаіць граматнасць вучняў. Веды вучняў па гісторыі, хоць у параўнанні з мінулым годам і значна палепшыліся, асабліва ў галіне засваення фактычнага матэрыялу і храналогіі, але вучні яшчэ вельмі слаба ўмеюць абагульняць і аналізаваць факты.

Недастатковай была ў мінулым годзе і матэрыяльная база школы. У радзе школ Чашніцкага, Лепельскага, Ельскага, Нараўлянскага раёнаў востра адчуваўся недахоп падручнікаў, сшыткаў, алоўкаў, наглядных дапаможнікаў, карт і т. д. У радзе школ Крычаўскага, Бабруйскага, Горацкага раёнаў мы мелі недапушчальны беспарадак, безгаспадарчасць, выключна слабую дысцыпліну, амаль адсутнасць выхаваўчай работы, некаторыя хуліганскія праявы і праявы класава-варожага характару з боку асобных вучняў.

1935-36 навучальны год павінен быць годам безумоўнай ліквідацыі мінулагодніх недахопаў. 1935-36 навучальны год павінен быць годам крутога ўздыму ў справе падняцця якасці вучэбна-выхаваўчай работы і ўстанаўлення сапраўднага большэвіцкага парадку ва ўсіх галінах школьнага жыцця, годам канчатковай ліквідацыі карэннага недахопу.

Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб школьным будаўніцтве, аб ліквідацыі дзіцячай беспрытульнасці і безнагляднасці, адкрывае велізарнейшыя магчымасці для далейшага развіцця совецкай школы, для ўздыму якасці яе вучэбна-выхаваўчай работы.

У выніку рэалізацыі пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб школьным будаўніцтве, у школах буйных гарадоў ужо з восені 1935 года ліквідавана трэцяя змена, бесперапынка і вандроўныя групы. У 1935 годзе ў гарадах Совецкага саюза пабудавана 374 школы на 240 390 вучняў; апрача таго Наркомасветы саюзных рэспублік атрымаюць памяшканні 72 ФЗВ на 28 280 вучняў. Пастанова абавязвае пераглядзець выкарыстанне школьнай плошчы кожнай школы, дабіваючыся адвядзення пад класы не менш 60—65 проц. школьнай плошчы. У Менску пабудавана 5 новых школ. Некалькі Менскіх школ ужо ў гэтым годзе працуюць у адну змену.

СНК БССР абавязаў органы НКА, Горсоветы і РВК забяспечыць да 15 жніўня поўнае заканчэнне рамонту ўсіх школ, загатоўку паліва, набыццё вучнямі падручнікаў, вучэбных дапаможнікаў, пісьмовых прылад, школьнай мэблі, абсталявання для школьных буфетаў, сталовак і т. д. К пачатку навучальнага года школа павінна мець усё, што ёй патрэбна для разгортвання высокаякаснай вучобы.

У гэтым годзе школы БССР атрымаюць $5\frac{1}{2}$ млн. падручнікаў, значную колькасць вучэбнага абсталявання і самае галоўнае—новае папаўненне педагагічнымі кадрамі, скончыўшымі ВНУ, тэхнікумы і педкурсы. За летні час сістэмай павышэння кваліфікацыі ахоплена каля 5 тысяч настаўнікаў пачатковай і сярэдняй школы. Уся гэта армія асветнікаў пры ўмелым кіраўніцтве ёю, пры актыўнай дапамозе можа паказаць прыклады і ўзоры большэвіцкай работы. Для гэтага неабходна правільна расставіць гэтых людзей, акружыць іх увагай і клопатамі, стварыць ім спрыяючыя матэрыяльна-бытавыя ўмовы, няўхільна ўздымаць іх ідэйна-палітычны і культурны ўзровень, аказваць канкрэтную дапамогу ў іх рабоце, забяспечыць чоткае аперацыйнае метадычнае кіраўніцтва, забяспечыць школу і настаўнікаў добраякасным вучэбным абсталяваннем. Аб усім гэтым мала клапаціўся НКА ў мінулым годзе.

Трэба прама сказаць, што вельмі многа мінулагодняга вучэбнага абсталявання з прычыны дрэннай яго якасці асталося не выкарыстаным. Нізкі па якасці і нашы пісьмовыя прылады. А мы-ж патрабуем ад вучняў прыгожага пісьма. Значыцца мы павінны яго забяспечыць добрым сшыткам, ручкай, пяром, алоўкам. Толькі пры гэтых умовах навыкі, тэхніка прыгожага пісьма вучнем будуць засвоены лёгка і хутка.

Нашы вучні любяць рысаваць і многа часу і ўвагі ўдзяляюць гэтаму. Тут мы павінны забяспечыць іх сшыткамі па маляванню, добрымі чорнымі і рознакаляровымі алоўкамі і фарбамі высокай якасці.

Дрэнна абстаіць справа з чарнілам і чарнільніцамі. Вельмі часта чарніла не хапае, або ёсць толькі сіняе ці зялёнае. Часамі вучні самі прыгатаўляюць для сябе чарніла. Пры гэтым яны пэцкаюцца, мажуцца і т. д. Гэта нікуды не варта. У школе павінна быць зусім дастаткова чорнага чарніла, якое для вучэбнай работы больш прыгоднае, чым чарніла іншага колеру. Школьніка неабходна забяспечыць рознакаляровай тушшу. У школах павінна быць дастатковая колькасць чарнільніц-невыліваек, якасць якіх неабходна значна падняць. Трэба дабіцца, каб іх выраблялі з добраякаснага шкла і больш прыгожымі па знадворнаму выгляду.

Вельмі часта вучні скардзяцца на адсутнасць сцёрак. Гэта—вялікі недахоп, паколькі адсутнасць сцёрак звычайна вядзе да нярашлівасці і неакуратнасці ў пісьме.

Як гэта не дзіўна, але ў радзе школ Беларусі камкавая крэйда складае цэлую праблему. Тут безумоўна ў першую чаргу вінаваты загадчыкі Районо, якія не забяспечылі школ крэйдай на цэлы год. Але ні ў якай ступені нельга апраўдваць дырэктароў і загадчыкаў школ, на долю якіх прыходзіцца значная частка гэтай віны. У нас у Беларусі добраякаснай камкавой крэйды ёсць дастаткова, і нашы школы могуць і павінны быць забяспечаны ёю ў дастатковай колькасці.

Таксама трэба забяспечыць школу грыфельнымі дошкамі. Яны для вучняў, асабліва малодшых класаў, вельмі неабходны. Грыфельныя сшыткі замяніць сабой грыфельных дошчак не могуць. Адсутнасць і недаацэнка грыфельных дошчак—вынік недабітага да канца лявацкага пражэкцёрства.

Пытанні паспяховага разгортвання вучэбнай работы павінны быць у цэнтры ўвагі саюза пачатковай і сярэдняй школы. Профсаюзныя арганіза-

цыі павінны ў гэтым напрамку разгарнуць вялікую работу. ЦК саюза пачатковай і сярэдняй школы павінен прасачыць за своечасовым забеспячэннем школ праграмамі, падручнікамі, метадычнымі дапаможнікамі і т. д. ГК і РК саюза павінны сачыць за своечасовым адрамантаваннем кожнай школы, забеспячэннем яе настаўнікамі, каб ніякіх змен у саставе настаўнікаў і пераводаў настаўнікаў з аднаго месца ў другое ў пачатку і сярэдзіне навучальнага года не рабілася, каб школа з першых дзён заняткаў была забяспечана палівам, падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі. Неабходна праверыць як Райана забяспечвае вучняў вопраткай і абуткам, як забяспечаны школы буфетамі і гарачымі снеданнямі, наколькі школа забяспечана пасудай, абсталяваннем для сталовак і т. д.

Разам з гэтым ГК і РК саюза, мясцкомы павінны паклапаціцца аб тым, каб усе настаўнікі былі забяспечаны кватэрамі, палівам, асвятленнем, дастаўкай хлеба і прадуктаў харчавання. Асаблівую ўвагу пры гэтым неабходна ўдзяліць іменна маладым настаўнікам, прыбыўшым з ВНУ, тэхнікумаў і педкурсаў.

ГК і РК саюза разам з Гар-і Райна павінны прывесці ў узорны парадак дамы работнікаў асветы і педгабінеты. Трэба каб яны сталі сапраўднымі цэнтрамі метадычнай работы і месцамі культурнага адпачынку настаўніка.

У радзе школ ёсць тэндэнцыя ліквідаваць настаўніцкія пакоі ў школах. Па гэтых «ліквідатарах» трэба рашуча ўдарыць. Настаўнік мае поўнае права мець асобнае месца для кароткага адпачынку ў час і пасля работы. Мясцкомы і селькомы павінны паклапаціцца аб тым, каб гэтыя настаўніцкія пакоі былі добра абсталяваны, каб гэта былі чыстыя, утульныя, адпаведна прыстасаваныя для адпачынку, пакоі; каб там былі газеты, часопісы, бібліятэчка-перасоўка па метадычных пытаннях, шашкі, шахматы, радыё, патэфон і інш.

Асаблівую ўвагу саюз і органы народнай асветы павінны ўдзяліць марксісцка-ленінскаму выхаванню настаўніка. Вывучэнне гісторыі партыі, тэорыі марксізма-ленінізма, пытанняў бягучай палітыкі—павінна быць арганізавана з самага пачатку навучальнага года і пастаўлена як важнейшая баявая задача прафсаюзаў і органаў народнай асветы.

Прафсаюзная арганізацыя павінна дапамагчы дырэктарам і загадчыкам школ максімальна скараціць так званы перыяд «раскачкі» ў разгортванні вучэбна-выхаваўчай работы. З першага-ж дня школьных заняткаў неабходна разгарнуць самую баявую і энергічную работу. Не процістаўляючы навучальнай работы выхаваўчай, трэба ў гэтым годзе так павесці справу, каб шырока пастаўленая выхаваўчая работа была цесна звязана з належна арганізаванай вучобай. Класныя кіраўнікі і старэйшыя настаўнікі павінны ў гэтым годзе паказаць сапраўдныя ўзоры высокаякаснай метадычнай і выхаваўчай работы.

Узмацняючы адзінаначалле, разгортваючы бальшэвіцкую крытыку і самакрытыку, падымаючы яшчэ на больш высокую ступень рэвалюцыйную пільнасць і непрымірымасць да класавых ворагаў і іх праяў, прафсаюзная арганізацыя і кіраўніцтва школы павінны мабілізаваць настаўніцтва на самую рашучую барацьбу супроць усякага роду разгільдзяйства, безгаспадарчасці, бяспечнасці і беспарадку ў школе. Змагаючыся за высокую культуру педагагічнай працы, кіраўніцтва школы і прафарганізацыя разам з тым павінны ўпарта змагацца за высокакультурны выгляд савецкай школы, за чыстату, бальшэвіцкі парадак, арганізаванасць і дысцыпліну. За гэта-ж павінен змагацца і ўвесь настаўніцкі і вучнёўскі калектыў школы. Неабходна вучням і настаўнікам прывіць вялікую любоў да школы. Гонар школы для кожнага вучня і настаўніка павінен быць вельмі высокі.

Гістарычная прамова т. Сталіна на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі павінна з'яўляцца праграмай работы органаў народнай асветы і профсаюзаў. Трэба вывучыць кожнага чалавека, па-большэвіцку цаніць кожнага здольнага работніка, акружыць нашага настаўніка чуласцю, увагай і вялікімі клопатамі. Трэба ўпарта і цярпліва вырошчваць кадры настаўнікаў, бо «кадры вырашаюць усё».

Наша партыя на чале з вялікім Сталіным і наш урад надзвычайна многа зрабілі ў сэнсе рэалізацыі ленінскіх дырэктыў аб настаўніку. Бліжэйшыя гады яшчэ ў значна большай ступені пакажуць, што азначаюць ленінскія адносіны да настаўніка. Няма ў свеце такой краіны, такой партыі, такога ўрада, які-б так любоўна адносіўся да дзяцей і да настаўнікаў, як гэта робіць наша партыя, наш урад, наша краіна. І мы глыбока ўпэўнены, што чырвонасцяжнае настаўніцтва ордэнаноснай Беларускай рэспублікі, узнятае гэтымі вялікімі клопатамі партыі, урада і асабіста т. Сталіна аб жывых людзях—будаўніках соцыялізма, адкажа ў гэтым навучальным годзе нябачаным уздымам творчай энергіі ў барацьбе за выхаванне і абучэнне падрастаючага пакалення СССР. Мы выкуем кадры, здольныя канчаткова ўстанавіць комунізм.

Конкурс на лепшую ўзорную школу, які ў гэтым годзе будзе праводзіцца ў БССР, вылучыць сотні і тысячы настаўнікаў, сапраўдных герояў педагагічнай работы.

Пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб выданні і прадажы падручнікаў, аб арганізацыі вучэбнай работы і ўнутраным распарадку ў школе, аб школьных пісьмовых прыладах—ствараюць выключна спрыяючыя ўмовы для падняцця якасці школьнай работы на нябывалую вышыню. Школа атрымлівае зараз усё, што ёй патрэбна для высока эфектыўнай работы па комуністычнаму выхаванню маладога пакалення. Выключна ад нас, органаў НКА і настаўнікаў, цяпер залежыць поспех гэтай справы.

*Ю. Дардак*

# Узмацнім комуністычнае выхаванне падрастаючага пакалення

У гутарцы з металургамі правадыр нашай партыі т. Сталін сказаў:

«Трэба берагчы кожнага здольнага і разумеючага работніка, берагчы і вырошчваць яго. Людзей трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае пладовае дрэва».

Так вучыць нас правадыр партыі адносіцца да вырошчвання людзей, да таго, як неабходна выхоўваць людзей—будаўнікоў соцыялізма. Гэта выключна глыбокае, назвычай важнае ўказанне т. Сталіна, кожны настаўнік павінен ведаць, пакласці яго ў аснову ўсёй сваёй работы. Гэтыя ўказанні неабходна заўсёды памятаць, бо на настаўніка партыя і ўрад ўсклалі вялікую і адказную задачу абучэння і выхавання падрастаючага пакалення—будаўнікоў комуністычнага грамадства.

Абучаючы дзяцей асновам навук, школа і настаўнік абавязаны выхоўваць у іх пачуццё глыбокай любві і бязмернай адданасці нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву, любві і адданасці справе партыі Леніна—Сталіна, адданасці савецкай уладзе, любві да соцыялістычнай радзімы, савецкага патрыятызма. Трэба выхоўваць у вучня пачуццё нянавісці да класавага ворага, шкодніка, лодыра, зрыўшчыка нашага будаўніцтва.

Тав. Сталін 4 мая кінуў вялікі лозунг: «Кадры вырашаюць усё». «Гэты лозунг знамянуе сабой пачатак новых адносін паміж людзьмі» («Правда» 6/V 1935 г.).

Перад школай і настаўнікам стаіць важнейшая задача падрыхтоўкі такіх кадраў, якія-б маглі аўладаць тэхнікай, кіраваць ёю.

У святле задач, пастаўленых т. Сталіным справа комуністычнага выхавання падрастаючага пакалення набывае велізарнейшае значэнне. У пастанове ЦК ВКП(б) «Аб пачатковай і сярэдняй школе» было ўказана, што ў «перыяд соцыялізма, калі пролетарыят ажыццяўляе канчатковае знішчэжэнне класаў ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы, выключна важнае значэнне набывае вытрыманае комуністычнае выхаванне ў школе і ўзмацненне барацьбы супроць усякіх спроб прывіць дзецям савецкай школы элементы антыпролетарскай ідэалогіі».

Выхоўваць у дзяцей пролетарскую ідэалогію, па сутнасці азначае выхоўваць дзяцей у духу марксізма-ленінізма. Тав. Сталін геніяльна сфармуляваў сутнасць выхавання моладзі ў духу ленінізма: «Гэта значыць, па-першае, укараняць у яе сазнанне таго, што перамога соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне магчыма і неабходна. Гэта значыць, па-другое, умацоўваць у ёй (моладзі—*Д.*) перакананне ў тым, што наша рабочая дзяржава ёсць дзецішча міжнароднага пролетарыята, што яна ёсць база разгортвання рэволюцыі ва ўсіх краінах, што канчатковая перамога нашай рэволюцыі з'яўляецца справай міжнароднага пролетарыята. Гэта значыць, па-трэцяе, выхоўваць моладзь у духу давер'я да кіраўніцтва расійскай комуністычнай партыі» (Сталін, «О комсомоле», стар. 22).

Асноўная задача комуністычнага выхавання—падрыхтаваць людзей, ауладаўшых глыбокімі ведамі, ауладаўшых тэхнікай, людзей, якія могуць прымяняць свае веды на практыцы соцыялістычнага будаўніцтва, людзей адданых інтарэсам соцыялістычнай, радзімы, смелых, ініцыятыўных, здольных прынесці карысць нашаму будаўніцтву і ўмеючых змагацца і перамагчы цяжкасці, людзей з комуністычным светапоглядам, большэвіцкай загартаванасцю. Гэта задача можа быць выканана толькі пры ўмове, калі сам настаўнік узброен марксісцка-ленінскім вучэннем, калі ён ауладаў сваім прадметам, па-майстэрску можа яго прыпаднесці вучням, калі ён з'яўляецца актыўным грамадскім дзеячом.

Выкананне гэтай задачы патрабуе ад кожнага настаўніка высокай якасці вучэбна-выхаваўчай работы, партыйнасці выкладання і класавай пільнасці ва ўсёй саваёй рабоце, большэвіцкай непрымірымасці да ўсякай спробы прывіць дзецям элементы антыпралетарскай ідэалогіі.

Наша школа ў барацьбе за ліквідацыю карэннага недахопу мае рад дасягненняў; ёсць дасягненні і ў пастаноўцы выхаваўчай работы. Вялікую дапамогу школам у барацьбе за якасць навучання, за сапраўднае комуністычнае выхаванне падрастаючага пакалення аказалі шэфы—фабрыкі і заводы («Комунарка»—Менск, «Комінтэрн»—Барысаў і інш.). Некаторыя школы паказалі ўзоры работы па педпрапагандзе сярод бацькоў і акружаючага насельніцтва. Наладжана непасрэдная сувязь і дапамога з боку бацькоў у справе выхавання дзяцей (гутаркі з бацькамі па педагагічных пытаннях, даклады аб формах і метадах выхавання дзяцей, кінофільмы вучэбна-выхаваўчага парадку, скарыстанне фанара з дыяпазітывамі па выхаваўчых пытаннях, экскурсіі і інш. мерапрыемствы). Паасобныя школы (Гомель) паказалі ўзоры работы па інтэрнацыянальнаму выхаванню падрастаючага пакалення (перапіска з замежнымі школамі, сувязь з дзіцячымі комуністычнымі арганізацыямі замежных краін, насычэнне выхаваўчым зместам выкладання асноў навук, правільная пастаноўка работ добраахвотных арганізацый (МОПР, Озет, Асоавіяхім і інш.). У многіх школах (Барысаў, Віцебск) нядрэнна пастаўлена антырэлігійная работа, сістэматычна праводзяцца даклады на антырэлігійныя тэмы, працуюць антырэлігійныя куткі ў школе, арганізоўваюцца інтэрнацыянальныя вечары, мерапрыемствы па барацьбе з рэлігійнымі святамі, спецыяльныя выпускі антырэлігійных газет, добра працуе т-ва «Юных прыхільнікаў СВБ». Школамі арганізоўваюцца спецыяльныя вечары для бацькоў, дзе побач з дакладамі аб класавай сутнасці рэлігіі ставяцца розныя прыродазнаўчыя доследы, якія паказваюць ненавуковасць рэлігійных забабонаў.

Але, не гледзячы на пэтыя дасягненні ў рабоце школ, трэба з усёй сур'ёзнасцю канстатаваць, што выхаваўчая работа ў нашых школах пастаўлена яшчэ нездавальняюча. Выкладаемы матэрыял часта не звязваецца з пытаннямі сучаснасці ў той час, калі гэтая сувязь натуральна вынікае з самога зместу вучэбнага матэрыялу і нашага соцыялістычнага будаўніцтва. У рэзультаце гэтага выкладанне робіцца схаластычным, сухім, фармальным. Не зварочваецца дастатковая ўвага на прывіццё вучням комуністычных поглядаў і комуністычных паводзін як на ўроку, так і па-за ўрокам; не выхоўваецца свядомая дысцыпліна, а ў некаторых школах выхаванне свядомай дысцыпліны паасобнымі настаўнікамі замяняецца фізічнымі мерамі ўздзейнічання і т. п. У некаторых школах піонерская работа пастаўлена слаба; вучнёўскія арганізацыі ў школе аслабілі сваю работу, няма сістэмы ў пазашкольнай рабоце. Некаторыя настаўнікі лічаць, што іх справа толькі вучоба, а выхаваўчая работа—справа класнага кіраўніка.

Апрача гэтага ў практыцы нашай школы мы мелі рад фактаў класава-варожых выступленняў. Так, некаторыя настаўнікі, у большасці выхадцы з класава-варожых нам людзей (б. кулакі, б. афіцэры, выхадцы з духавенства і інш.), якія пралезлі ў рады настаўніцтва, у выніку паслаблення класавай пільнасці школьным упраўленнем НКА,—спрабуюць ажыццявіць старыя контррэволюцыйныя метады ўздзейнічання на вучняў—фізічныя меры пакарання: штурханне, цяганне за валасы, ставяць ў куток, пазбаўляюць абеду і т. д. Факты фізічных мер уздзейнічання мы мелі ў некаторых школах Быхаўскага, Барысаўскага і іншых раёнаў БССР. Некаторыя загадчыкі райАНА недаацэньваюць гэтых праяў класава-варожага характару і абмяжоўваюцца вымовай за прымяненне фізічных мер пакарання, развал работы ў школе і т. д. У самім апараце НКА падборам педкадраў ведалі людзі другарадныя, не правераныя. Гніла-ліберальныя адносіны фактычна дапамагаюць класаваму ворагу ў працягванні сваіх контррэволюцыйных установак, прывіццю вучням антыпролетарскай ідэалогіі, антысовецкіх адносін да соцыялістычнай маёмасці і антыкомуністычных паводзін асобных вучняў. Усе гэтыя факты ставяць перад намі пытанне павышэння якасці ўсёй школьнай работы, павышэння якасці выхаваўчай работы і асабліва пытанне класавай пільнасці і рэволюцыйнай зоркасці ў барацьбе за ідэалагічна-вытрыманае выкладанне і комуністычнае выхаванне. Іменна гэтых уласцівасцей не праяўлялі дагэтуль школьнае ўпраўленне НКА і рад РайАНА.

Вялікую ролю ў справе правільнай пастаноўкі ўсёй выхаваўчай работы школы адыгрывае сістэматычная работа выкладчыка па выхаванню дзяцей на самым уроку. У мэтах правільнай пастаноўкі ў школе ўсёй выхаваўчай работы, неабходна моцць адзіны план выхаваўчай работы, сістэматычнае кіраўніцтва з боку загадчыка, дырэктара і загадчыка навучальнай часткай школы. Трэба ўзняць адказнасць кожнага настаўніка не толькі за пастаноўку свайго вучэбнага прадмета, але і ўсёй выхаваўчай работы ў класе і ў школе. Толькі пры ўмове, калі калектыў настаўнікаў, ачышчаючы свае рады ад класава-варожых элементаў, на аснове самакрытыкі, з энтузіязмам, па-дзелавому, сістэматычна возьмецца за гэту ганаровую справу комуністычнага выхавання падрастаючага пакалення—рэзультаты будуць сапраўды ўзорнымі.

Кожнай школе трэба распрацаваць план выхаваўчай работы па ўсёй школе, улічваючы індывідуальныя і ўзростныя асаблівасці дзяцей. Агульна школьны план выхаваўчай работы павінен вырасці на аснове планаў вучэбна-выхаваўчай работы ў кожным класе.

Перш за ўсё ў выкладанні асноў навук трэба забяспечыць комуністычную накіраванасць. Пры праходжанні таго ці іншага прадмета неабходна даць цвёрдыя сістэматычныя веды. Гэтыя веды павінны быць прыпаднесены жыва, наглядна і цікава. Яны павінны прывіваць вучням уменне спалучаць тэорыю з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва, развіваць у вучняў комуністычныя погляды і комуністычныя адносіны да соцыялістычнай маёмасці і да вучобы, выхоўваць у іх комуністычныя паводзіны. Перад настаўнікам стаіць складаная задача: з аднаго боку, змагацца са штучным увязваннем (працягненнем за валасы) асноў навук з выхаваўчым матэрыялам, а з другога, не ўпускаць ні адной магчымасці арганічнай увязкі між дачай трывалых цвёрдых ведаў і матэрыяламі соцыялістычнага будаўніцтва, г. зн. сувязі тэорыі з практыкай. Таму настаўнік павінен прадумаць, як ідэалагічна і метадычна правільна прыпадносіць той ці іншы матэрыял. Адначасова з гэтым трэба змагацца за свядомую дысцыпліну на ўроку, далікатныя адносіны да таварышоў і асабліва настаўнікаў.

Перад настаўнікам стаіць задача эфектыўнага скарыстання кожнай мінуты ўрока. Мы патрабуем у першую чаргу ад настаўніка сур'ёзнай падрыхтоўкі да кожнага ўрока, ідэалагічнай вытрыманасці ўрока, жывасці, сістэматычнасці і красамоўнасці ў выкладанні матэрыялу. На тых уроках, дзе гэта арганічна ўвязваецца з выкладаемым матэрыялам, неабходна ўзмацніць элементы антырэлігійнага і інтэрнацыянальнага выхавання.

У некаторых нашых школах заўважаецца паслабленне *барацьбы з антысемітызмам*, з рэшткамі контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызма—галоўнай небяспекі ва ўмовах БССР, вялікадзяржаўным і іншымі відамі шавінізма. Неабходна ўзмацніць барацьбу з ухіламі ад ленінскай нацпалітыкі, ускрыць у даступнай для вучняў форме контррэвалюцыйную сутнасць нацдэмакратызма, вялікадзяржаўнага шавінізма, антысемітызма і іншых антысавецкіх праяў.

Перад школамі стаіць важнейшая задача правільнай арганізацыі пазашкольнага часу нашых вучняў. Занятасць бацькоў і недастатковая ўвага некаторых з іх да выхавання дзяцей прыводзіць да таго, што ў пазашкольны час вучні прадастаўлены самім сабе. Кіраўнік школы, настаўнікі рэдка маюць уяўленне аб тым, чым вучань жыве, аб чым думае, чым заняты па-за школай. «Прадастаўлены самому сабе вучань рызыкуе адарвацца ад калектыва, адчувае сябе адзінокім і з-за гэтага пападае ў выпадковую, варожую, а часамі нават хуліганскую кампанію» («Правда», 13-I-35 г.).

Закон ад 7/IV-35 г. аб барацьбе з злачыннасцю сярод малалетніх, дзе з усёй яскравасцю ўказваецца, што наша савецкая дзяржава не можа міндальнічаць з праступкамі, якія парушаюць інтарэсы дзяржавы і будзе прымяняць да злачынцаў тыя законы Савецкай дзяржавы, якія прызваны ахоўваць інтарэсы працоўных, ставіць перад настаўнікам, школай і бацькамі неабходнасць узмацнення комуністычнага выхавання, узмацнення комуністычных метадаў уздзейнічання на дзяцей.

Усё гэта патрабуе ад кіраўніка школы і ўсяго педкалектыва—арганізаваць сістэму пазашкольных мерапрыемстваў, якія ахапілі-б усіх дзяцей школы, былі-б цікавымі для іх і дапамагалі вучням падняць іх культурны ўзровень, пашырыць іх кругавід і накіраваць іх інтарэсы на комуністычны шлях.

Гэта патрабуе дасканалага вывучэння настаўнікамі кожнага вучня, умоў яго жыцця, яго інтарэсаў, накіраванасці, а таксама разгорнутай штодзённай сістэматычнай педпрапаганды сярод бацькоў. Гэту справу школа павінна разгарнуць як першачарговую ў інтарэсах узмацнення выхавання дзяцей.

Мы спынімся толькі на некаторых відах пазашкольнай работы, якія павінны быць уключаны ў агульныя планы выхаваўчай работы.

Да гэтых відаў у першую чаргу павінна быць аднесена работа школьнай бібліятэкі. Задача школьнай бібліятэкі заключаецца ў арганізацыі работы з кнігай сярод школьнікаў, распаўсюджанні кнігі і папулярызацыі лепшых твораў як мастацкай, так і навукова-папулярнай літаратуры для дзяцей. Для гэтага неабходна, каб бібліятэка вывучала інтарэсы чытача школьніка, сістэматычна арганізоўвала рэкамендацыйную работу шляхам вывешвання рэкамендацыйных спісаў, спецыяльных рэкамендацыйных плакатаў і анатацый гэтых кніг. Плакаты і спісы павінны быць мастацка афармлены, каб сапраўды зацікавіць вучняў кніжкай. Але гэтага мала. Трэба сістэматычна кантраляваць як вучні чытаюць, што для іх з'яўляецца зразумелым і што недаступна іх разуменню, трэба весці сістэматычную работу па навучанню дзяцей уменню карыстацца слоўным даведнікам. Пажадана час ад часу арганізоўваць абгаварэнне той ці іншай

мастацкай кніжкі з школьнай серыі, напрыклад, «Паднятая цаліна»—Шолахава, «ТВТ»—Маўра, «Незвычайны мядзведзь»—Якімовіча і інш. Для гэтага трэба, каб вучні падрыхтаваліся да выступлення, арганізавалі мастацкае чытанне паасобных урыўкаў з кніжкі і інш. Такімі мерапрыемствамі можна сапраўды зацікавіць дзяцей кнігай, выхоўваць у іх літаратурны густ і тым самым змагацца з пранікненнем у асяроддзе школьнікаў халтурнай і класава-варожай літаратуры.

Такая работа павінна быць накіравана на прывіццё вучням комуністычных поглядаў і комуністычных адносін да тых ці іншых з'яў жыцця.

Другім важным раздзелам плана з'яўляецца палітыка-выхаваўчая работа сярод вучняў. Да такіх форм можна аднесці палітінфармацыю сярод вучняў, палітычныя даклады і палітгурткі для старэйшых класаў. Палітінфармацыя павінна быць на актуальную тэму нашага соцыялістычнага будаўніцтва і палітычных падзей у розных капіталістычных краінах. Такая інфармацыя павінна быць даступнай узросту дзяцей, жывой, насычанай фактамі і праводзіцца ў форме расказа ці гутаркі. Пры палітінфармацыі трэба карыстацца геаграфічнай картай, эпідыяскопам, ліхтаром і дыяпазітывамі, дыяграмамі і іншымі нагляднымі дапаможнікамі. Такая сістэматычная работа па паліт-інфармацыі дасць вучням магчымасць правільна арыентавацца і разумець чытаемыя газеты і журналы, абагаціць іх кругавід і зацікавіць іх усімі палітычнымі падзеямі, выхоўвае ў іх комуністычнае перакананне. Апрача гэтага неабходна, каб у пазашкольны час у школе працавала чытальня са спецыяльнай кансультацыяй настаўнікаў па розных пытаннях.

Адначасова з гэтым трэба арганізоўваць для вучняў цікавыя даклады на розныя тэмы як палітычнага, так і навуковага характару. Такія даклады могуць быць арганізаваны ў сувязі з календаром «Пионерской Правды», напрыклад, даклады аб знатных людзях, аб вынаходствах і інш. Такія даклады павінны быць грунтоўна падрыхтаваны, і забяспечаны адпаведнымі нагляднымі дапаможнікамі. Пры гэтым для вучняў па пытаннях даклада павінна рэкамендавацца адпаведная літаратура. Сам даклад павінен быць абстаўлен наглядным чытаннем мастацкіх урыўкаў.

Неабходна ў кожнай школе разгарнуць гурткавую работу, асабліва тэхнічныя гурткі, дзіцячую мастацкую самадзейнасць, фізкультурную і абаронную работу.

Не спыняючыся на іншых відах пазашкольнай работы, мы лічым патрэбным указаць, што ў плане выхаваўчай работы павінна быць звернута асаблівая ўвага на інтэрнацыянальнае і антырэлігійнае выхаванне падрастаючага пакалення, на прывіццё дзецям пролетарскай ідэалогіі. У плане старэйшых класаў неабходна распрацаваць рад гутарак па гісторыі партыі, асабліва паслякастрычніцкага перыяда, паказаць як партыя большэвікоў пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна дабілася пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, як «Расія нэпаўская, стала соцыялістычнай», паказаць як класавы вораг і яго агентура змагаліся супроць партыі і вялікага Сталіна. Паказаць, што ўхілы па сутнасці ёсць класава-варожыя праявы і вылазкі, накіраваныя супроць соцыялістычнага будаўніцтва, на рэстаўрацыю капіталізма.

Таксама неабходна ўключыць у план азнаямленне дзяцей з контррэволюцыйнай дзейнасцю нацдэмаў якія змагаліся супроць Совецкай Беларусі ў мэтах аднаўлення капіталізма і ператварэння яе ў калонію Польшчы.

Уся пазашкольная работа павінна быць прасякнута комуністычным духам і комуністычнай накіраванасцю.

Толькі пры сістэматычнай, планавай, напружанай рабоце школы разам з сям'ёй мы сапраўды даб'ёмся ўзорнай пастаноўкі вучэбна-выхаваўчай работы школы.

---

*Н. Гай*

# Як дапамагчы вучню добра вучыцца ў школе

*(Памятка бацькам)*

Советкая палітэхнічная школа, ажыццяўляючая комуністычнае выхаванне дзяцей, дае ім грунтоўныя веды асноў навук і ўменне прымяняць гэтыя веды на практыцы. Старыя метады навучання, якія заключаліся ў муштры і зуброжцы—ад такога-то радка да такога-то—адышлі ў мінулае. Уся вучэбна-выхаваўчая работа нашай совецкай школы мае строга акрэслены і прадуманы характар. Дзеці пад кіраўніцтвам настаўніка дружным калектывам працуюць над атрыманнем патрэбных ведаў і замацоўваюць атрыманыя веды шляхам самастойных практыкаванняў у школе і ў выглядзе хатніх заданняў дома. Такім чынам, хатнія заданні вучняў ёсць нішто іншае, як сродак замацавання атрыманых імі ведаў у школе, як сродак, які выхоўвае ў дзяцей уменне самастойна працаваць над засваеннем ведаў. Выконваючы хатнія заданні, дзіця прывыкае да адказнасці за сваю справу. Выкананне хатніх заданняў выхоўвае ў дзіцяці ўсведамленне неабходнасці вучобы і свядомых да яе адносін.

Свядомыя адносіны да работы і вучобы, як аснова комуністычнага выхавання дзяцей, магчымы толькі пры ясным разуменні сваіх абавязкаў. На падрыхтоўку ўрокаў дома, у залежнасці ад узросту дзяцей, школа адводзіць ад адной да двух гадзін у дзень. Колькасць і аб'ём хатніх заданняў разлічан на вучня так званых «сярэдніх здольнасцей». Гэта значыць, што вучні больш здольныя выконваюць заданне хутчэй, працуюць над ім менш указанага часу, а вучні менш здольныя патрацяць на падрыхтоўку ўрокаў больш указанага часу. Але як для першых, так і для другіх выкананне хатніх заданняў зусім пасільна. Справа тут у тым, каб навучыць дзіця самастойна працаваць і свядома адносіцца да сваёй работы.

У нашай школе не павінна быць накаплення заданняў на адзін дзень. Ведаючы расклад на кожны дзень, дзеці штодзённа рыхтуюць урокі па таму ці іншаму прадмету.

Акуратнае наведванне школы, актыўная, усідчывая і прадукцыйная работа на занятках у класе, свядомая дысцыпліна, штодзённае выкананне ўсіх хатніх заданняў—вось што з'яўляецца галоўнай умовай паспяховасці дзяцей у нашай совецкай школе.

Паспяховасць кожнага вучня і эфектыўнасць усёй вучэбна-выхаваўчай работы школы ў першую чаргу залежыць ад правільнай пастаноўкі работы ў самой школе. Аднак для паспяховага ажыццяўлення гэтай задачы неабходна таксама і сістэматычная дапамога сям'і. Без узгодненай работы

з сям'ёй, без дапамогі з боку бацькоў і грамадскасці, школе цяжка будзе весці барацьбу за выкананне задач, якія стаяць перад ёю ў справе выхавання пакалення людзей «здольных канчаткова ўстанавіць комунізм».

Вывучэнне асяроддзя непаспяваючых школьнікаў паказвае, што частка з іх жыве ў дрэнных матэрыяльна-бытавых і нават антыкультурных умовах. Паводле даных праф. Блонскага, які вывучаў прычыны непаспяховасці дзяцей у школе, з 100 чалавек непаспяваючых школьнікаў 54 жыве ў недастаткова спрыяючых матэрыяльна-бытавых умовах. Жывуць яны без устаноўленага школай рэжыма, ім ніхто не дапамагае падрыхтоўваць урокі, за імі ніхто не наглядае. Многія з іх перагружаны хатняй работай, цэлы дзень да самай позняй ночы бегаюць па вуліцы без усякага нагляду з боку дарослых. Усё гэта не можа не ўплываць на паспяховасць дзяцей у школе. Там, дзе бацькі не звяртаюць на дзяцей належнай увагі, не клапоцяцца аб іх, не прывіваюць ім жадання вучыцца, не выхоўваюць у іх свядомых адносін да працы, там часцей за ўсё выяўляецца непаспяховасць дзяцей, там дзеці перашкаджаюць рабоце школы. Безнагляднасць дзяцей—недапушчальная з'ява.

Узаемаадносіны членаў сям'і між сабой, іх культурна-палітычны ўзровень, адносіны дарослых да дзяцей маюць пэўны ўплыў на паспяховасць дзіцяці ў школе. Будучы сведкамі сямейных сварак, лаянак, боек і грубых выразаў, дрэнных узаемаадносін дарослых між сабой, дзеці мімавольна ўцягваюцца ва ўсё тое, што іх акружае, хвалююцца і адцягваюцца ад вучобы.

Разгледзім некалькі прыкладаў.

**Вася Л., 9 год, вучань III класа.** У класе часта няўважлівы, дрэнна слухае аб'ясненні настаўніка. Задуменны, сумны, замкнуты і часта агрэсіўны. Вучыцца дрэнна. Пры абследванні хатніх умоў выяўлена, што бацька і маці жывуць між сабою дрэнна, часта сварацца. Бацька п'е і ў п'яным выглядзе на вачах у Васі лаецца і б'е маці. Маці вельмі часта плача. Хоча пакінуць мужа і ўзяць да сябе Васю, але ўсё ніяк не адважыцца. Усе гэтыя хатнія сцэны бацькоў прыгнятаюць уражлівага Васю. Нават у школе ён не можа не думаць аб сямейным пытанні, і гэтыя думкі адцягваюць яго ўвагу ад школы. Вася павышана ўзбуджан, палахлівы і хваравіта чулы, усё гэта прымушае яго быць замкнутым, а часамі і агрэсіўным.

Большасць непаспяваючых школьнікаў (з 100 чалавек—80) жывуць без пэўнага хатняга рэжыму і без увагі бацькоў да іх вучобы. Гэтыя дзеці позна кладуцца спаць, не ўпару ўстаюць, ядуць калі прыдзецца. Не маюць пэўнага часу і месца для падрыхтоўкі ўрокаў. Мала чытаюць і не маюць адпаведных цацак і гульняў. Што датычыцца адносін бацькоў да дзіцяці, то яны, у большасці выпадкаў грубыя, няўважлівыя да яго запросаў. Замест выхавання ў дзіцяці ўсідчывасці, настойлівасці, умення даводзіць пачатую справу да канца, акуратных і беражлівых адносін да рэчаў—гэтых неабходных якасцей для паспяховай работы ў школе,—бацькі сваімі асабістымі паводзінамі выхоўваюць у дзіцяці няўсідчывасць, пагардлівасць да працы, неакуратныя, неберажлівыя адносіны да рэчаў.

**Жэня Ів., вучань IV класа.** Вучыцца дрэнна. Не рыхтуе ўрокаў, пэцкае рукі, сшыткі і кнігі. Знадворны выгляд дзіцяці зусім неахайны. Адзенне без гузікаў, локці парваныя, твар, рукі, шыя заўсёды брудныя. Абследванне хатніх умоў паказала, што Жэня разам з бацькамі жыве ў брудным і душным пакоі, зусім дастатковым па жылплошчы. Жыве Жэня без рэжыму, за ім ніхто не глядзіць. Рэчы яго ў поўным беспарадку раскіданы па ўсім пакоі: пальто, шапка—на куфры, кнігі, сшыткі і цацкі пад камодам і пад лавай. Урокі Жэня рыхтуе дзе прыдзецца: на куфры, на

акне, на брудным кухонным стале, не гледзячы на тое, што ў пакоі ёсць абедзены стол. А між тым у гэтым пакоі лёгка можна адвесці дзіцяці куток, выдзеліць месца, дзе-б дзіця магло рыхтаваць урокі, паставіць хоцьбы складны ложак, зрабіць вешалку для вопраткі, шафку для кніг і цацак. У пакоі такая шафка ёсць, але яна занята непатрэбным хламам. Пры наяўнасці дома асобнага кутка для дзіцяці, вешалкі для вопраткі, століка і палічкі яго лёгка прывучыць да чыстаты, акуратнасці і беражлівасці да рэчаў. Пасля гутаркі з бацькамі педагогу ўдалося дабіцца арганізацыі рэжыму дзіцяці. Цяпер Жэня своечасова ўстае, своечасова кладзецца спаць, у пэўныя гадзіны есць, гуляе на свежым паветры і рыхтуе ўрокі. У школу не позніцца, прыходзіць чыстым, ахайна адзетым, з чыстымі сшыткамі і кнігамі. Настаўнік больш не скардзіцца на адставанне Жэні ў вучэбнай рабоце і на яго непасняховасць.

**Каця Е., вучаніца IV класа, 12 год.** Бацька рабочы, маці служыць сакратаром. Матэрыяльная забяспечанасць сярэдняя. Узаемаадносіны бацькоў між сабой дружныя. Да дзіцяці адносяцца ласкава і ўважліва. Кацю ніколі не каралі. Яна жыве па рэжыму. Устае ў 7 гадзін раніцы, мыецца, прыбірае сваю пасцель, робіць гімнастыку. У 8 гадзін снедае і ідзе ў школу. Прышоўшы з школы, абедае, адпачывае: штодзённа дзве гадзіны бывае на свежым паветры, потым рыхтуе ўрокі, чытае, наведвае піонератрад і дапамагае матцы па хаце, а роўна ў 10 гадзін вечара кладзецца спаць на сваёй чыстай пасцельцы.

Каця мае свой столік, стул, вешалку, этажэрку для кніг і асобны ручнік. Дома чыста, светла і прыемна. Бацькі Кацю любяць, але не песцяць. Купляюць патрэбныя кнігі, цацкі, дапаможнікі, сочаць за яе вучобай. Каця вучыцца добра, не гледзячы на невялікія яе здольнасці. Яна ўважлівая, дысцыплінаваная і ўсідчывая.

Часта дзеці ў школе стамляюцца з-за перагрузкі іх хатняй работай. Бацькі, не лічачыся з сіламі і інтарэсамі дзіцяці, не звяртаюць увагі на яго ўрокі і прымушаюць яго дапамагаць сабе—няньчыць дзяцей, хадзіць па хлеб, па дровы, па ваду, насіць жывёле корм і інш. Зразумела, што ўсё гэта пераўтамляе дзіця і перашкаджае яму добра вучыцца.

**Ната Г., вучаніца IV класа, 12 год.** Бацька і маці працуюць. Апрача Наты ў сям'і ёсць яшчэ яе сямігадовы брат. Настаўнік накіраваў Нату ў педагагічную кансультацыю з скаргай на дрэнную паспяховасць пры яе добрых здольнасцях. На ўроках Ната рассеяна, няўважліва, задуменна і нечым заклапочана. Пры абследванні хатніх умоў выяўлена, што Ната ў доме фактычна з'яўляецца гаспадыняй. Адыходзячы на работу, маці загадвае Наце зрабіць усё неабходнае па хаце. Ната ходзіць па хлеб, варыць абед, стаіць у чарзе за прадуктамі і т. д. Заклапочаная аб тым, што маці няма дома, што дома сядзіць яе маленькі брат, што з ім штонебудзь можа здарыцца, што яму пара есці, што сёння трэба варыць абед, Ната не можа сканцэнтраваць увагі на вучобе і быць актыўнай. Дрэнныя адзнакі канчаткова прыгняталі Нату, і яна зусім перастала рыхтаваць урокі.

Дзіцячая безнагляднасць таксама робіць уплыў і на паспяховасць у школе. Часта бацькі, адыходзячы на работу, замыкаюць кватэру і хаваюць ключ. Прышоўшы са школы дзіця знаходзіць замкнутыя дзверы кватэры. Што яму рабіць? Кінуўшы кнігі, яно вымушана ісці на вуліцу і быць там да таго часу, пакуль бацькі не вернуцца з работы. А дома таксама не заўсёды бывае прыемна. Дзіцяці няма чым заняцца, няма чаго пачытаць, няма ў што пагуляць і яго мімаволі цягне на вуліцу.

Гэтым і тлумачыцца, што сярод непаспяваючых школьнікаў большая частка дзяцей безнаглядных або з дрэнна арганізаваным вольным часам.

Гэтыя дзеці часцей за ўсё пасля прыходу са школы праводзяць увесь астатні час на вуліцы. Такім дзецям цяжка выконваць устаноўлены школай рэжым. Іх перастае цікавіць школа і вучоба і гэта зніжае іх паспяховасць.

Адной з асноўных умоў добрай паспяховасці дзяцей з'яўляецца стан здароўя. Паводле даных праф. Блонскага больш паловы непаспяваючых дзяцей слабыя здароўем і з паніжаным харчаваннем, а значыць і з паніжанай працаздольнасцю. Фізічна слабаму, хвораму дзіцяці цяжка сканцэнтраваць сваю ўвагу, яно хутка стамляецца і становіцца індыферэнтным да вучобы. Стомленае дзіця, як правіла, малаактыўнае і няўсідчывае.

Вялікую ролю ў стамляемасці дзіцяці адыгрывае стан яго дыхальных шляхоў. Паліпы, адэноіды, хранічныя катары, якія часта бываюць у дзяцей, затрудняюць дыханне і гэтым самым зніжаюць працаздольнасць. Катар часта звязан з лёгкай глухатой, якую расцэньваюць, як няўважлівасць, і адчуваннем цяжару ў галаве, асабліва ў дрэннае надвор'е. Дэфекты зроку, слуху таксама аказваюць уплыў на непаспяховасць дзяцей, асабліва тады, калі ні бацькі, ні педагогі не ведаюць аб наяўнасці іх у дзіцяці. Не ведаючы аб гэтых дэфектах, бацькі, а часамі нават і настаўнікі прыпісваюць паводзіны дзіцяці яго гультайству або проста нежаданню вучыцца.

Дрэннае і нерэгулярнае харчаванне, адсутнасць гарачай стравы, адыход у школу не еўшы—усё гэта таксама можа быць прычынай рассеянасці і няўважлівасці на ўроках, што асабліва заўважаецца ў другую палову дня. Дзеці з слабым здароўем патрабуюць асаблівага рэжыму, асаблівага падыходу як у школе, так і дома.

Нездаровыя хатнія ўмовы, сырасць і спёртае паветра ў кватэры, дрэннае асвятленне—усё гэта таксама ўплывае на паспяховасць вучняў. Нездаровае паветра ў час сну, сумеснае спанне некалькіх чалавек з дзіцем на адной пасцелі, шум і гутаркі ў час сну дзіцяці не даюць здаровага адпачынку. Яно ўстае не выспаўшыся, цяжка падымаецца з пасцелі, у школе бывае санлівае, апатычнае, павышана ўзбуджанае. Выходзячы з гэтага, неабходна, каб кожны класны кіраўнік ведаў індывідуальна кожнага вучня.

Часамі дзеці адстаюць у вучобе з прычыны прарыву ў ведах, які атрымаўся ў выніку хваробы, або пераводу з адной школы ў другую. У такіх выпадках дапамагчы дзіцяці няцяжка. Для засваення прапушчанага патрэбен час, паслядоўнасць і практыкаванні ў пройдзеным. У такіх выпадках часамі бывае дастаткова толькі вызначэння прарыву ў ведах, папаўнення іх, і дзіця пойдзе разам з класам без далейшай дапамогі. Калі дзіця некалькі дзён або тыдняў хварэла, то бацькі павінны даведацца ў школе, што за гэты час пройдзена па арыфметыцы, па мове, па гісторыі і т. д. і дапамагчы дзіцяці дагнаць сваіх таварышоў.

У асноўным прычыны школьнай непаспяховасці можна звесці да наступнага:

1) дрэнная пастаноўка вучэбна-выхаваўчай работы ў школе;

2) слабая дысцыпліна (прагулы, спазненні і т. д.);

3) адсутнасць своечасовай дыферэнцыраванай дапамогі адстаючым вучням;

4) няведанне настаўнікам асаблівасцей кожнага вучня данага класа;

5) недастатковы кантроль з боку педагога за работай, вучобай кожнага вучня;

6) дрэнныя хатнія ўмовы вучня (адсутнасць асобнага пастаяннага месца для работы, адсутнасць рэжыму ў сям'і і кантролю за выкананнем

школьных заданняў, перагрузка цяжкай хатняй работай, няўважлівыя адносіны бацькоў і самога вучня да санітарна-гігіенічных умоў і фізічнага стану здароўя, што прыводзіць да частых захворванняў);

7) незацікаўленасць вучняў ведамі, безадказнасць і т. д.

Прычыну адставання ў вучэбнай рабоце ўстанаўлівае педагог або ўрач; яны і павінны даць правільную параду, як дапамагчы дзіцяці правільна вучыцца.

Вельмі дрэнна калі бацькі вучобай дзяцей штодзённа не цікавяцца, а даведваюцца аб паспяховасці дзіцяці толькі па квартальных ці гадавых адзнаках, г. зн. тады, калі дзіцяці ўжо цяжка бывае аказаць дапамогу.

Бываюць выпадкі, калі прычынай дрэннай вучобы дзяцей у школе з'яўляюцца самі бацькі. Яны водзяць дзіця ў царкву, забараняюць хадзіць у піонерскі атрад, перагружаюць хатняй работай і т. д.

Прыклад 1. **Сцёпа А., вучань III класа, 9 год.** Часта не наведвае ўрокаў, а калі і бывае ў класе, дык амаль нічога не робіць. На педагагічным абследванні ён заявіў: «А нашто вучыцца? Які толк у вучэнні? Вырасту і пайду працаваць на фабрыку, як мой бацька—ён ніграматны, не вучыўся, а ўсё-ж працуе і я таксама вучыцца не хачу».

Пры абследванні хатніх умоў высветлілася, што ніграматная маці часта гаворыць Сцёпу: «Э, што за толк, што цяпер усіх вучыць сталі, мы і нявучонымі пражылі нядрэнна свой век, лепш за вас жывём». Такія разважанні пакінулі ў дзіцяці самы глыбокі след. Яшчэ не маючы сваіх установак, не ўмеючы крытычна адносіцца да таго, што яно чуе з вуснаў родных, дзіця ўспрыняла гэта як ісціну, якая надоўга панізіла ў яго вачах важнасць школьнай работы.

Прыклад 2. **Грыша З., вучань III класа.** Бацька і маці маюць вышэйшую адукацыю. Хлопчык часта чуе іх разважанні аб тым, што школа працуе няправільна, што дзецям у школе ўдзяляюць мала ўвагі, перагружаюць грамадскай работай, што настаўніца Грышы сама педагагічна непісьменная, што яна вельмі маладая і няправільна да яго адносіцца.

У выніку ўсяго гэтага Грыша стаў лічыць сябе ў праве не слухацца «дрэннага» педагога, не лічыцца з яго заўвагамі і не рыхтаваць урокаў.

## Што павінны рабіць бацькі для таго, каб іх дзіця магло добра вучыцца ў школе?

Адной з асноўных умоў добрай паспяховасці дзіцяці ў школе з'яўляецца правільны рэжым дзіцяці дома, добрыя адносіны бацькоў да дзіцяці і цесная сувязь са школай.

Часцей бывайце ў школе, даведвайцеся ў чым школа мае патрэбу і як вучыцца ваша дзіця. Калі ў школе вы наглядаеце непарадкі, то не крытыкуйце іх у прысутнасці дзяцей і тым больш у прысутнасці свайго дзіцяці, а старайцеся праз совет садзейнічання школе або прама праз дырэктара школы выправіць гэтыя непаладкі. Калі-ж вы заўважыце, што ваша дзіця стала горш вучыцца, то зараз-жа даведайцеся ў чым справа і прыміце ўсе меры да таго, каб аказаць дзіцяці ўсямерную дапамогу асабіста самі або праз школу. Запішыце яго ў гурток дадатковых заняткаў, пачытайце з ім, пагутарце аб прачытаным, дапамажыце разабрацца ў незразумелай задачы і т. д. Устанавіце дзіцяці цвёрды рэжым і сачыце за яго выкананнем. Дзіця павінна своечасова класціся спаць і своечасова ўставаць, у пэўныя гадзіны есці, займацца, быць на свежым паветры, гуляць з таварышамі, чытаць, майстраваць, выконваць пасільную для яго хатнюю работу і весці адну грамадскую работу ў школе ці ў

атрадзе юных піянераў. Правільны рэжым арганізуе дзіця, умацоўвае і дапамагае добра займацца. Правільна арганізуйце вольны час дзіцяці, дабівайцеся таго, каб яно займалася ў гуртках, займалася спортам, наведвала бібліятэку і чытальню ў школе, або ў дзіцячым клубе.

Таксама трэба цікавіцца тым, што дзіця робіць на вуліцы, з кім яно дружыць. Дайце яму магчымасць займацца фізкультурай, катацца на коньках, лыжах і санках. Штодзённае прабыванне на свежым паветры, фізічныя практыкаванні ўмацоўваюць здароўе і заражаюць дзіця бадзёрасцю і вясёласцю. Сачыце за тым, каб дзіця было на вуліцы не больш двух гадзін штодзённа. Вельмі доўгае прабыванне на вуліцы стамляе дзіця і адцягвае ад заняткаў.

Абсталюйце дзіцяці пастаяннае месца або куток для заняткаў, дзе яно магло-б адно або з таварышамі чытаць, гуляць, майстраваць і рыхтаваць урокі. Пастаўце столік, крэсла па росту, зрабіце палічку для кніг і вешалку для вопраткі. Калі нельга паставіць асобны стол, то выдзельце месца за агульным сталом і прывучайце рыхтаваць урокі ў адзін і той-жа час. Чым больш дакладна і цвёрда будзе ўстаноўлен час дзіцяці для падрыхтоўкі ўрокаў, тым лягчэй яму будзе кожны дзень садзіцца за ўрокі. Пастаяннае рабочае месца, цвёрда ўстаноўлены час для заняткаў дысцыплінуе дзіця, павышае яго ўменне самастойна адносіцца да работы. На час падрыхтоўкі ўрокаў вызвальце дзіця ад усякай хатняй работы, не адцягвайце яго, дайце яму магчымасць сканцэнтравацца на падрыхтоўцы ўрокаў.

Сачыце за тым, каб у дзіцяці былі ўсе патрэбныя вучэбныя дапаможнікі, інструменты і кнігі для чытання. Гэта развівае яго і дапамагае яму добра вучыцца.

Дайце дзіцяці асобную і чыстую пасцель, укладвайце своечасова спаць і ўсямерна ахоўвайце яго сон: не стукайце і не гутарце вельмі голасна.

Наладзьце правільныя ўзаемаадносіны з дзіцем і тады вам не прыдзецца яго лаяць і караць. Не песціце і не падманьвайце. Будзьце ўважлівы, ласкавы, роўны і спакойны. Ніколі не давайце дзіцяці абяцанак, якіх вы не можаце выканаць. Невыкананне абяцанак зніжае аўтарытэт бацькоў у вачах дзіцяці, і яно перастае верыць бацькам.

Выхоўвайце ў дзіцяці свядомыя адносіны да работы і паважайце яго працу. Будзьце прыкладам акуратных, беражлівых адносін да соцыялістычнай уласнасці і да рэчаў асабістага карыстання. Выхоўвайце ў дзіцяці вытрыманасць, настойлівасць і ўменне пачатую справу даводзіць да канца. Сачыце за тым, каб дзіця не бралася за некалькі спраў адразу, а, узяўшыся за адну справу, даводзіла яе да канца. Калі дзіцяці цяжка справіцца з работай ці заданнем, то своечасова дапаможыце яму: растлумачце, раскажыце, падскажыце і ў меру пахваліце яго, але не выконвайце за яго работу. Своечасовая дапамога ў рабоце, давядзенне справы да канца ўмацоўвае ў дзіцяці веру ў свае сілы.

Калі дзіця хварэе, то не адкладвайце яго лячэнне надоўга, а высніце ў урача стан яго здароўя і прыміце ўсе меры да яго лячэння: арганізуйце яму дома санаторны рэжым, памясціце яго ў лясную школу, у школьны санаторый або ў дыспансер. Памятайце аб тым, што хворае дзіця добра вучыцца не можа.

Захоўвайце чыстату ў кватэры і ў кутку дзіцяці, кожны дзень правятрывайце пакой, памятайце аб тым, што ў цяжкім, чадлівым, надыханым паветры дзіця стамляецца значна хутчэй, і гэта асабліва адбіваецца на яго працаздольнасці. Надзвычайна важна захаванне чыстаты цела, бялізны, адзення і пасуды дзіцяці. Нельга забывацца аб тым, што зараза ў выглядзе маленькіх, нябачных простым вокам, мікробаў, заўсёды но-

сіцца ў паветры, мы яе носім на руках і на адзенні. Частым мыццём рук і цела, мыццём бялізны, чысткай адзення мы вызваляемся ад мікробаў і папярэджваем заразу. Дзеці, якія растуць у брудзе, часта хварэюць рознымі скурнымі хваробамі і прапускаюць заняткі ў школе. А для добрай работы, для добрых заняткаў, перш за ўсё патрабуецца сіла і здароўе.

Не рабіце дзіцяці сведкай сварак, лаянкі. Не хвалюйце яго хатнімі скандаламі, асабліва перад адыходам у школу і ў час падрыхтоўкі ўрокаў.

Пасылаючы дзіця ў школу, імкніцеся да таго, каб яно прышло туды ў добрым настроі. Гэта дасць яму добрую зарадку на цэлы дзень. Не лайце і не карайце дзіця перад школай, старайцеся быць ласкавымі і ўважлівымі. Паглядзіце ці здаровае яно, ці чыстыя ў яго рукі, твар, шыя і вопратка. Ці не парваная ў яго вопратка, ці ёсць гузікі і вешалка ў пальто і т. п. Ці ўсё ўзяло дзіця ў школу, ці не забылася ручкі, алоўка, сшытка. Не затрымлівайце дзіця, своечасова выпраўляйце ў школу, каб яно не спазнілася на заняткі.

Прывучайце дзіця загадзя падрыхтоўваць свае рэчы к школе. Як толькі яно скончыла падрыхтоўку ўрокаў, напомніце, калі трэба, аб тым, каб яно прыбрала за сабой і зложыла ўсе неабходныя рэчы ў сумку або партфель.

Часцей бывайце ў школе. Даведвайцеся, што дзеці праходзяць і якія поспехі вашага дзіцяці.

Калі вы заўважыце якія-небудзь недахопы ў паводзінах свайго дзіцяці і самі выправіць іх не можаце, то адразу-ж звяртайцеся за парадай у школу, да класнага кіраўніка, да педагога, ці да ўрача. Школа дапаможа вам зразумець ваша дзіця і пакажа правільны падыход да яго.

Уважлівыя і чулыя адносіны да дзіцяці, правільны і цвёрды рэжым дзіцяці дома, своечасовая дапамога ў вучэбнай рабоце—дапамогуць яму добра вучыцца ў школе.

---

*Гендзіна*

# Супроць скажэнняў у комуністычным выхаванні дзяцей дашкольнікаў

Ў змесце работы дашкольных установ, пабудаванай на аснове праектаў праграм 1932 г. безумоўна ёсць некаторыя дасягненні: удакладнен аб'ём навыкаў і ведаў, якія павінны быць прывіты дзецям дашкольнага ўзросту; унесена планавасць у работу дашкольных установ; унесена яснасць у метады некаторых відаў работы; павялічылася адказнасць педагога за работу з дзецьмі; з большай стараннасцю арганізоўваецца асяроддзе дзіцячага жыцця.

Але разам з гэтым работа па праекту праграм прывяла да раду грубых скажэнняў у выхаваўчым працэсе. Асноўныя прычыны гэтых скажэнняў—ігнараванне ўзростных асаблівасцей дзіцяці-дашкольніка, што выразілася ў празмернай перагрузцы праграм па ўсіх раздзелах работы.

Указанні ЦК партыі аб тым, што неабходна **строга** ўлічваць **узростныя** асаблівасці дзяцей у рабоце школы яшчэ ў большай ступені адносяцца да работы дашкольных установ. Асабліва многа памылак у гэтым напрамку дапушчана ў праграме па грамадска-палітычнаму выхаванню, якая надзвычайна перагружана палітычнымі ведамі без дастатковай увагі да выхавання грамадскіх паводзін дзіцяці.

Канкрэтныя памылкі выявіліся ў тым, што праграма давала ўказанні аб непасрэдным уцягненні дзяцей дашкольнага ўзросту ў соцыялістычнае будаўніцтва, удзеле ў зборы ўраджаю, у сходах дарослых, выкананні дзецьмі пэўных заданняў і інш. У выніку гэтага дзяцей перагружалі недаступнымі іх разуменню паняццямі, без асмыслівання тых з'яў, да якіх яны падводзіліся. Усё гэта вяло да шаблона, штучнасці. Дзеці расходвалі нерацыянальна энергію там, дзе гэтага не патрэбна, **трацячы зацікаўленасць да даступных іх разуменню праяў грамадскага жыцця і соцбудаўніцтва.** Гэтым самым пастаноўка грамадска-палітычнага выхавання па праектах праграм фактычна **ішла ў разрэз з задачамі комуністычнага выхавання.**

Новыя стабільныя праграмы ставяць асноўнай задачай грамадскага выхавання дашкольніка не выкладанне дзецям ведаў часта недаступных іх разуменню, а выхаванне грамадскіх паводзін, неабходных для калектыўнага жыцця. Праз натуральнае імкненне дзіцяці да грамадскіх з'яў, дзеці падводзяцца да ўсведамлення жыцця нашай краіны.

Шляхам выкарыстоўвання канкрэтных умоў навакольнага асяроддзя неабходна выхаваць правільныя ўзаемаадносіны дзяцей з дарослымі і па-

між сабой, уважлівыя і правільныя адносіны да рэчаў дзіцячага сада, дома і ўсёй грамадскай маёмасці.

Задача педагога дапамагчы дзіцяці ў **асмысліванні** грамадскага значэння найбольш даступных для дзяцей з'яў грамадскага жыцця, найбольш блізкіх грамадскіх устаноў (школа, амбулаторыя, пошта і інш.). На жывым мастацкім матэрыяле падвесці **практычна да канкрэтных аб'ектаў соцыялістычнага будаўніцтва.**

Такім чынам, як мы бачым, моманты грамадскага выхавання даводзяцца **да сазнання** дзіцяці, замест даваемых раней фармальных ведаў.

Трэба выхаваць грамадскія паводзіны так, каб дзіця не магло дапусціць некультурных і антыграмадскіх паводзін.

Для выхавання паводзін перш за ўсё неабходна:

а) правільна арганізаваць усё жыццё дзіцячага сада: правільныя ўзаемаадносіны між дарослымі, правільныя ўзаемаадносіны між дзецьмі і дарослымі;

б) устанавіць правільны распарадак дзіцячага жыцця ў садзе, дакладна і няўхільна без муштры і без расхлябанасці выконваць яго;

в) добра прадумаць і спланаваць арганізацыю заняткаў з дзецьмі (старанная падрыхтоўка педагогаў да заняткаў, арганізацыя асяроддзя і падбор матэрыялаў).

Педагог павінен праяўляць ласкавыя і ўважлівыя адносіны да дзяцей, да інтымных патрэбнасцей кожнага дзіцяці паасобку, патрабуючы пры гэтым безумоўнага выканання ўсіх правіл калектыўнага жыцця, выхоўваючы такім чынам, характар будучага грамадзяніна (дакладнасць у выкананні правіл калектыўнага жыцця і сваіх абавязкаў, адзыўчывасць да патрэб таварышоў, праўдзівасць і інш.).

У азнаямленні дзяцей з грамадскім жыццём мы не павінны ганяцца за абагульненнем з'яў, а дабівацца накаплення дзецьмі яркіх уражанняў аб нашай савецкай рэчаіснасці і асмыслівання гэтых з'яў. Асноўнае ў гэтым напрамку—выхаваць зацікаўленасць, любоў да ўсяго таго, што характарызуе нашу сучаснасць, выкарыстаць тыя грамадскія моманты, якія існуюць у наяўнасці, блізкі і зразумелы дзецям.

Не ўстанаўліваючы аб'ёму навыкаў паводзін, усё-ж неабходна захоўваць ступеньчатасць і строгую паслядоўнасць у выбары для наглядання дзецьмі тых аб'ектаў, з багатага акружаючага дзяцей жыцця, каб унікнуць перагрузкі, і ў той самы час захаваць паступовае ўскладненне.

У сувязі з гэтым спецыяльнай праграмы па грамадскаму выхаванню дашкольніка не даецца. Камісія па выпрацоўцы праграм абмежавалася распрацоўкай метадычнай запіскі.

Ці добра гэта, ці не зніжае такім чынам новая праграма ўвагі да пытанняў грамадскага выхавання дашкольнікаў?

Наадварот, грамадскія паводзіны, асмысліванне даступных дзіцяці праяў грамадскага жыцця дзяцей выхоўваюцца праз усе віды работ, праз усе праграмы дзіцячага сада. Трэба толькі даць шлях да падвядзення дзяцей к грамадскаму выхаванню, а гэта і забяспечвае метадычная запіска.

Не здымаецца таксама пытанне антырэлігійнага і інтэрнацыянальнага выхавання дашкольніка, але гэта выхаванне разумеецца, як непасрэднае рэагаванне педагога ў кожным канкрэтным выпадку па сутнасці праяў дзяцей, звязаных з забабонамі, рэлігійнасцю і нацыяналізмам.

Уздзейнічаючы на эмоцыі дзяцей, прыпадносячы ім матэрыял, які яны могуць асмысліць, мы гэтым самым дасягнем задач комуністычнага выхавання, развіцця ў дзяцей любві да савецкай радзімы, да яе герояў і т. д.

Другім буйнейшым недахопам праектаў праграм з'яўляецца **няправіль-**

**нае талкаванне задач працоўнага выхавання, недаацэнка выхаваўчай ролі гульні.**

Не гледзячы на тое, што большасць псіхолагаў і педагогаў дашкольны ўзрост называюць гульнявым, у праектах праграм **праца ўвесь час проціпастаўляецца гульні.**

Асноўная прычына тут заключаецца ў тым, што на працу дашкольніка глядзелі як на працу дарослага з устаноўкай на рэзультацыйнасць, стварэнне каштоўнасці. Да працы дашкольніка падыходзілі не з пункту гледжання ролі працы, як фактара выхавання дзіцяці, а з пункту гледжання вытворчага.

Адсюль у методыцы работы цэнтральнае месца займалі выхаванне навыкаў, -паказ, інструктаж, мадэліраванне, стандарт, праца як самамэта, а не як сродак для выхавання творчасці, ініцыятывы, мышлення, мовы. Уся ўвага фіксавалася на тым, каб зрабіць пэўную рэч, на развіццё-ж дзіцяці ў працэсе гэтай работы ўвагі не звярталася, што скажала само разуменне значэння працы як выхаваўчага фактара.

Назіраючы за дзіцем у працэсе яго працоўнай дзейнасці, мы бачым, што гульня пранізвае ўсе віды работы дзіцяці-дашкольніка, і калі ў дзяцей малодшай групы пераважае **працэсуальнасць,** то ў сярэднім узросце пераважнае месца займае **ізабразіцельная** дзейнасць (дзеці ізабражаюць у матэрыялах тое, што бачылі ў жыцці). І толькі ў старшым узросце ізабразіцельная дзейнасць пачынае падпарадкавацца **рэзультацыйнасці** (рэч або цацка для сябе, для дзіцячага сада).

Адсюль можна зрабіць вывад:

а) Нельга аддзяліць працу ад гульні і ад ізабразіцельнай дзейнасці дзіцяці.

б) Гульня з'яўляецца асноўным тыпам паводзін дзіцяці-дашкольніка.

в) У цэнтры работы з дзецьмі-дашкольнікамі павінна быць развіццё творчасці і ініцыятывы дзіцяці, а не выхаванне толькі навыкаў, якія часта прыводзяць да падаўлення ініцыятывы.

Навык **павінен** выхоўвацца, але ў працэсе творчасці.

У сувязі з гэтым замест ранейшай праграмы па працы даецца праграма па лепцы, рысаванню і працоўных занятках з падраздзяленнямі: рысаванне, лепка, заняткі з матэрыяламі і ўдзел дзяцей у самаабслугоўванні.

Асноўны тып работы—работа па свабоднаму выбару дзіцяці пад непасрэдным наглядам і кіраўніцтвам педагога. І толькі ў старэйшым узросце дапускаецца работа па заданню.

Такім чынам асноўная розніца паміж ранейшай праграмай па працы (праект) і новай стабільнай праграмай наступная:

а) Раней быў ухіл да навыкаў, падрыхтоўка да вытворчай дзейнасці, зараз—прынцып усебаковага развіцця, ініцыятывы і творчасці дзіцяці (тэматыка выцякае з гульні і патрэбнасці дзяцей).

б) Раней у асноўным была работа па заданню, цяпер па свабоднаму выбару.

в) Раней матэрыял падрыхтоўваўся для выбару пэўнай рэчы (стандарт), цяпер—падбор разнастайнага матэрыялу, аперуючы якім дзіця магло-б шырока задаволіць свае гульнявыя патрэбнасці і развіваць творчасць, пры гэтым як матэрыял, так і інструменты ўводзяцца ў строгай сістэме паступовага ўскладнення ад адной узроставай групы да другой.

г) Раней прадугледжваўся вузкі, прафесіянальны характар працы; цяпер—агульная лінія гульні ІЗО і працы, па якой выхоўваюцца ўменні і навыкі, развіваецца творчасць без спецыяльнай трэніроўкі дзяцей.

Гаворачы аб праграме па рысаванню, лепцы і працоўных занятках,

мы толькі закранулі значэнне гульні. Аднак гэта пытанне неабходна выдзеліць асобна.

Эмацыянальнасць, лёгкасць, гібкасць, радасная афарбоўка, захапленне гульнёй ствараюць устойлівасць дзіцячых паводзін.

Той факт, што дашкольны ўзрост з'яўляецца ў асноўным **гульнявым** даў повад да складання спецыяльнай праграмы па гульні і цацках.

Праграма гэта ставіць перад сабой задачы:

а) забяспечыць магчымасць гульні, як радаснай дзейнасці для дзіцяці-дашкольніка;

б) выкарыстаць гульню, як метад прапрацоўкі іншых праграм;

в) даць магчымасць дзецям у час гульні фантазіраваць, праяўляць ініцыятыву і творчасць;

г) указаць набор цацак, які-б забяспечыў змест гульні і накіраванасць яе ў пэўным, патрэбным кірунку.

Гаворачы аб дзіцячых цацках, неабходна спыніцца на адной найбольш любімай і неабходнай у гульні дзяцей. Такой цацкай з'яўляецца лялька. У свой час (1923-24 г.) лялька з гульняў дзяцей у дзіцячым садзе была выкінута па тых матывах, што яна ўносіць у работу дзіцячага сада мяшчанства і атрыбуты старога быту.

Зараз калі ўсё грамадства, і хатняе жыццё, і інтарэсы самога дзіцяці рэзка змянілася, калі быт адлюстроўвае тое, што характэрна для нашай краіны—лялька ў рабоце дашкольных устаноў павінна мець месца. Адна справа раней калі мяшчанства выпірала з кожнай падваротні, другая—цяпер, калі на дзіця з усіх бакоў уздзейнічае наша сучаснасць. Лялька, прадуманая і метадычна ўнесеная ў жыццё дзіцячага сада, дасць магчымасць больш шырока і ініцыятыўна разгарнуць гульні (лялька—вагонаважаты, лялька—міліцыянер, чырвонаармеец, піонер, дзеці і інш.). Гуляючы з лялькай, дзеці набываюць рад гігіенічных і працоўных ведаў і навыкаў (раздзяванне, утрымліванне ў чыстаце вопраткі, выраб мэблі для лялак і інш.).

Аднак неабходна падкрэсліць, што лялькі, якія ўносяцца ў дашкольныя ўстановы павінны быць значных размераў, з рухомымі канцавінамі, зроблены з такога матэрыялу, каб іх лёгка было захоўваць у чыстаце. Пры гэтым дашкольныя ўстановы павінны быць забяспечаны лялькамі абавязкова ў вялікай колькасці.

Адсутнасць у праектах праграм 1932 г. асобнай праграмы па развіццю мовы знізіла ўвагу педагога да пытанняў развіцця мовы дзіцяці, да выпраўлення яе дэфектаў, да работы над кнігай.

Мова—гэты магутны соцыяльны фактар,—які арганізуе жыццё і паводзіны дзіцяці перастала займаць цэнтр увагі педагога. У заняпадзе аказалася і такая цікавая галіна работы ў дашкольных установах, як расказванне. Гутаркі з дзецьмі праводзіліся суха, нецікава, вяла і часта зводзіліся да нудных выпытванняў у дзяцей таго, што яны ўжо ведаюць.

Не звярталася ўвагі на выпраўленне дэфектаў мовы, на барацьбу з некультурнай, грубай мовай.

Зусім была выкінута з ужывання ў дашкольнай установе казка. А між тым казка, як самая забаўная і цікавая лёгкая для ўспрыймання дзіцяці форма мастацкага слова, у рабоце з дзецьмі павінна заняць сваё месца. Зусім правільна падвергнуўшы крытыцы дарэволюцыйную казку, мы аднак павінны перагледзець гэты багаты багаж і выкарыстаць для нашай дзетвары тыя з народных казак і казак паасобных пісьменнікаў, якія па сваёй ідэалогіі адпавядаюць задачам комуністычнага выхавання.

Успомнім, як у час дыскусіі аб казцы В. І. Ленін на пытанне—ці можна дапусціць, каб жывёлы ў казцы гаварылі,—даў глыбокі і просты адказ:

«У кожнай казцы ёсць момант сапраўднасці, і калі-б дзецям прыпаднеслі казку, у якой певень і кот не гавораць праўдападобна чалавечай мовай, дзеці-б не сталі ёю цікавіцца» (даклад на VII з'ездзе РК КП(б)).

Побач з выкарыстоўваннем спадчыны неабходна, каб думка дзіцячых пісьменнікаў і лепшых педагогаў была зараз накіравана на стварэнне яркіх мастацкіх апавяданняў і казак, маляўнічых, даступных для дзяцей, ілюстрацый.

Прынцыпова зменена праграма па фізвыху. Унесен новы распарадак дня з дакладным улікам бюджэта часу дашкольніка, з прадастаўленнем большага месца свабодным і гульнявым заняткам дзяцей. Большае месца адводзіцца выхаванню **культурных патрэбнасцей** дзіцяці, гігіенічных і бытавых навыкаў. Уводзяцца спецыяльныя заняткі па фізкультуры.

Замест ранейшай праграмы па прыродазнаўству, перагружанай рознастайным, бессістэмным матэрыялам, даецца праграма «Пачаткаў ведаў па прыродзе», дзе асноўная ўвага фіксуецца на выхаванні зацікаўленасці да прыроды, на паступовым падвядзенні дзяцей да разумення прыроднай сувязі з'яў прыроды.

Праграма па МУЗО дае рад сістэматычных заняткаў, даступных і цікавых дашкольніку, якія развіваюць яго музыкальны слух і густ.

Азнаёміўшыся з прынцыпамі пабудовы новых стабільных праграм для дзіцячага сада, можна ахарактарызаваць іх такім чынам.

1. Работа па ўсіх праграмах накіравана на выхаванне паводзін дзіцяці, на развіццё яго свядомасці, замест трэніроўкі і голых навыкаў.

2. Значна павялічваецца кіруючая роля педагога, яго адказнасць як за дзіцячы калектыў у цэлым, так і за кожнае дзіця паасобку, за індывідуальны падыход да выхавання дзяцей. Ад педагога патрабуецца больш гібкасці, сканцэнтраванасці і знаходлівасці ў рабоце з дзецьмі.

3. Работа па новых праграмах патрабуе стараннасці ў стварэнні адпаведнага матэрыяльнага асяроддзя, якое забяспечыла-б выкананне праграмных патрабаванняў.

4. Праграма прад'яўляе да педагога пэўныя патрабаванні: добра вывучыць праграму, навучыцца яе прымяняць у рабоце з дзецьмі, ауладаць метадамі работы. Яна патрабуе, каб педагог сам вучыўся, быў прыкладам у паводзінах, мове, ва ўзаемаадносінах з акружаючымі.

5. Педагог павінен добра ўясніць тую вялікую адказнасць, якую ён нясе за выхаванне дзяцей савецкай краіны, калі ў іх пачынае фармавацца светапогляд, калі яны паступова ўваходзяць у яднанне з акружаючым жыццём, атрымліваюць першыя ўражанні ад той вялікай справы, якую твораць цяпер у нашай краіне мільёны працоўных.

Праграма дапаможа зрабіць дзіцячы сад месцам радаснага, бадзёрага дзяцінства, рыхтаваць дзяцей да сістэматычнай работы ў школе, а ў далейшым да актыўнага ўдзелу ў жыцці, у будаўніцтве нашай вялікай соцыялістычнай бацькаўшчыны.

**Ад рэдакцыі**: Друкуючы артыкул т. Гендзінай, які ўскрывае істотныя недахопы праграм 1932 г. рэдакцыя адзначае, што аўтар абыходзіць моўчкі работу дашкольнага аддзела НКА і дашкольных працаўнікоў, якія ў сваей практычнай дзейнасці дапускалі скажэнні прынцыпаў комвыхавання дзяцей.

*Левін-Шчырына*

# Як арганізаваць дзіцячы калектыў у дзіцячым садзе[1]

Выхаваць калектывіста, які ўмее свае інтарэсы падпарадкаваць інтарэсам соцыялістычнага грамадства,—адна з асноўных задач комуністычнага выхавання.

Ужо з дашкольнага ўзросту дзеці павінны падводзіцца да асазнання, што ў калектыве лягчэй, лепш, весялей, цікавей гуляць, жыць, працаваць. У дзіцячым садзе дзеці павінны атрымаць навыкі сумеснага жыцця, гульні і работы, прывучыцца захоўваць пэўныя правілы, парадак, дысцыпліну, берагчы свае рэчы, цацкі і матэрыялы дзіцячага сада. Парадак у дзіцячым садзе наладжваецца кіраўніцай з прыцягненнем дзяцей. Правілы парадку ўстанаўліваюцца кіраўніцай. Паступова, з ростам і развіццём, дзеці пачынаюць іх асазнаваць і арганізуюцца для правядзення іх у жыццё.

Нельга гаварыць аб дзіцячых арганізацыях у дашкольным узросце ў поўным сэнсе слова. Тут мы маем толькі зачаткі арганізацый. Арганізуючы дзіцячы калектыў, педагогу, трэба памятаць, што формы арганізацыі дзяцей павінны выцякаць з патрэбнасцей дзіцячага жыцця і, па магчымасці быць асазнанымі дзецьмі. Так, дзяжурствы ў малодшай групе ўводзяцца тады, калі дзеці ўсёй папярэдняй работай падрыхтаваны да гэтай новай формы (аб дзяжурствах гл. ніжэй).

Патрабаванні парадку і формы арганізацыі дзіцячага калектыва павінны паступова ўскладняцца з развіццём і расшырэннем вопыту дзяцей.

Вялікая работа павінна праводзіцца з сям'ёй. Неарганізаванасць, няўменне жыць у калектыве вельмі часта бываюць у выніку няправільнага выхавання дзіцяці ў сям'і. Гутаркі, парады бацькам, сумесная работа дзіцячага сада і сям'і ў гэтым напрамку з'яўляецца неабходнай і абавязковай умовай выхавання калектывізма і арганізаванасці дзяцей. Усе навыкі, якія прывіваюцца ў дзіцячым садзе неабходна замацоўваць у сям'і.

Кожны дзіцячы сад, кожная кіраўніца абавязаны весці з бацькамі раз'ясняльную работу, дабіваючыся ад іх поўнага разумення задач і прыёмаў выхавання.

Неабходнымі ўмовамі для арганізацыі дзіцячага калектыва з'яўляецца наладжанасць работы калектыва дарослых і арганізаванасць усяго жыцця дзіцячага сада. Пры адсутнасці дысцыпліны, зладжанасці ў рабоце дарос-

---

[1] Распрацавана т. Левін-Шчырынай—дацэнтам дашкольнага аддзялення Маскоўскага педагагічнага інстытута ім. Бубнова.

лых, пры частых непаразуменнях, беспарадку, беспланавай рабоце, адсутнасці падрыхтоўкі ўсяго патрэбнага для работы, нядбайнасці педагагічнага і тэхнічнага персанала—цяжка разлічваць на арганізаваных дзяцей.

У брудным памяшканні, у антыгігіенічных умовах, пры беспарадку ў мэблі, абсталяванні, рэчах, дапаможніках і т. п. нельга арганізаваць дзіцячы калектыў і наладзіць парадак ва ўстанове.

Правільна арганізаваць дзіцячы калектыў, наладзіць парадак у групах неабходна з першых-жа дзён прабывання дзяцей у дзіцячым садзе.

Патрабаванні да дзіцяці і правілы жыцця ў групе ў першыя дні прабывання дзяцей у дзіцячым садзе павінны быць нескладанымі. Спачатку гэтыя патрабаванні зводзяцца да таго, што дзеці ў вызначаны час павінны прыходзіць у дзіцячы сад, у вызначаны час ісці дадому, абедаць, працаваць, гуляць, адпачываць разам з другімі дзецьмі. Побач з гэтым дзеці паступова прывучаюцца да пэўнага парадку ў карыстанні абсталяваннем, матэрыяламі, дапаможнікамі і цацкамі. Усе рэчы дзіцячага сада знаходзяцца ў агульным карыстанні, таму трэба карыстацца імі супольна, дзяліцца, чакаць чаргі, уступаць, папрасіць, а не браць без дазволу. Пры супольнай рабоце—аказаць услугу адзін другому і дарослым, падзякаваць за аказаную ўслугу, падаць, а не кінуць, ахвотна адказаць на пытанні.

Да рэчаў трэба адносіцца беражна: усе рэчы прыбіраць на месца, не кідаць, не ламаць. У далейшай рабоце гэтыя навыкі павінны замацоўвацца, дзеці павінны ўсё больш свядома да іх адносіцца.

У першыя-ж дні па прыходзе ў дзіцячы сад трэба ўстанаўліваць правільныя ўзаемаадносіны паміж дзецьмі, паміж хлопчыкамі і дзяўчаткамі, паміж дзецьмі і дарослымі. Дапамога старэйшых дзяцей дарослым, папераджальныя, уважлівыя адносіны адзін да аднаго, папярэджанне сварак, боек і інш.—усяго гэтага можна дасягнуць, калі з самага пачатку дзеці атрымаюць ва ўсім правільнае кіраўніцтва з боку педагога. Для гэтага зусім не патрэбна, каб кіраўніца ўступала капрызам дзяцей. Неабходна, каб дзеці адразу адчулі, што кіраўніца старшая, што яе патрабаванні трэба выконваць. Такім чынам, з самага пачатку ўстанаўліваюцца асноўныя правілы парадку ў дзіцячым садзе: беражныя адносіны да яго маёмасці, правільныя ўзаемаадносіны паміж дзецьмі і дарослымі. Без гэтага не можа быць у далейшым наладжана арганізацыя дзіцячага калектыва і парадак у дзіцячым садзе.

У дзіцячым садзе многа часу аддаецца рэжымным момантам: ядзе, сну, умыванню і інш. Арганізацыя і правядзенне іх павінны быць прадуманы самым дакладным чынам. У іншым выпадку яны адымаюць занадта многа часу, праходзяць беспарадачна, ствараюцца шматлікія чаргі, што прыводзіць да сварак, штурханіны, дэзарганізацыі дзяцей. Усім знаёмы гэтыя малюнкі з жыцця дзіцячых садоў. Вось доўгай шарэнгай выстраіліся дзеці каля двух умывальнікаў. Стаячым ззаду надаядае доўгае стаянне, і яны стараюцца сябе чым-небудзь «заняць». Пачынаецца дзёрганне суседзяў, штурханне. У рэзультаце пакрыкванні кіраўніцы, сваркі паміж дзецьмі. Або вось у невялікай, цеснай раздзявальні адразу тры групы адзяюцца на прагулку... Крык, шум, штурханіна, пыл, блытаюцца рэчы, усюды раскіданы шапкі, шарфы... Кіраўніца не сочыць за парадкам, не стварае спакойнай абстаноўкі для дзяцей.

У другіх установах мы сустрэнемся з другой крайнасцю: усе дзеці ходзяць па струнцы, у стамляючай цішыні і ў строгім парадку выстойваюць доўгія чэргі пры ўмыванні, адзяванні і інш.

Як першае, так і другое аднолькава шкодна, і адбіваецца як на здароўі і нервовай сістэме дзяцей, так і на іх арганізаванасці. Першае дэзарганізуе дзяцей, прывучае іх да беспарадку, другое падаўляе дзяцей,

не выхоўвае ў іх свядомых адносін да правіл калектыўнага жыцця. Такога роду «дысцыпліну» дзеці імкнуцца парушыць, як толькі ад іх адвернецца кіраўніца.

## Арганізацыя правядзення асобных момантаў у распарадку дня

### Прыход дзяцей

Вялікае значэнне для ўстанаўлення з самай раніцы спакою і парадку ў дзіцячым садзе мае арганізацыя прыходу дзяцей.

У раздзявальні павінен дзяжурыць педагог, які ўважліва сустракае кожнае дзіця, вітаецца з ім і маткай (або той асобай, якая прывяла дзіця), распытвае аб здароўі, сочыць, каб дзіця раздзелася, акуратна зладжыла сваю вопратку, павесіла на месца. У кожнага дзіцяці павінна быць вешалка і пэўнае месца для пальто, галош, галаўнога ўбора. Вешалка павінна быць памечана значком. Усе рэчы кожнага дзіцяці таксама павінны быць памечаны, каб у выпадку, калі што-небудзь пераблытаецца, лёгка было пазнаць, чые гэта рэчы. У раздзявальні абавязкова павінна быць дастатковая колькасць лавак, табурэтак, на якіх дзеці маглі-б раздзявацца седзячы, не штурхаючыся, не падаючы і не перашкаджаючы адно аднаму. Усё абсталяванне павінна быць так наладжана, каб дзеці маглі ім карыстацца самастойна (самому зняць, павесіць рэч і т. п.).

Раздзеўшыся, дзіця ідзе ў свой групавы пакой, дзе яго ветліва сустракае кіраўніца, вітаецца з ім. Кіраўніца павінна «прыняць» кожнае дзіця, яна павінна бачыць і ведаць у якім становішчы дзіця з'явілася ў дзіцячы сад: ці здарова яно, які ў яго настрой, у якім выглядзе яно знаходзіцца ў сэнсе чыстаты, вопраткі і інш. Для гэтага кіраўніца бегла аглядае дзіця, дае яму некалькі пытанняў, супакойвае, калі дзіця расстроенае або ўзбуджанае, робіць заўвагі і ўказанні з прычыны непарадку ў вопратцы, тут-жа прапануе дзіцяці памыцца, паправіць панчохі, завязаць шнуркі і т. п.; прыцягвае другіх дзяцей на дапамогу, дапамагае сама.

Калі ў дзіцяці вялы выгляд,—яно не бярэцца за гульні, трэба вымяраць тэмпературу, або ізаліраваць дзіця. Толькі пасля такога «прыёму» кіраўніца прапануе дзіцяці заняцца той ці іншай справай.

Па прыходзе ў дзіцячы сад дзеці павінны заняцца спакойнай прывычнай работай. Частка іх займаецца выкананнем абавязкаў дзяжурных і камісій: паліўка кветак, кармленне птушак, жывёл, прыгатаўленне матэрыялу для арганізаваных заняткаў; астатнія разглядваюць знаёмыя кніжкі, карцінкі, гуляюць у лато, з настольным будаўнічым матэрыялам і інш. Такі арганізаваны прыход дзяцей стварае спакойны настрой у іх і спрыяе наладжванню парадку на ўвесь дзень. Гэтаму вельмі дапамагае і ранішняя гімнастыка. Сумесныя нескладаныя гімнастычныя практыкаванні садзейнічаюць выпрацоўцы сканцэнтраванасці, устойлівасці дзіцячай увагі, згуртоўваюць дзіцячы калектыў; рытм, дружнае калектыўнае выкананне фізкультурных рухаў павышаюць арганізаванасць дзяцей.

### Умыванне

Як указана было вышэй вельмі часта пры ўмыванні дзецям прыходзіцца выстрайвацца ў доўгую чаргу каля двух умывальнікаў.

Вымыўшы рукі, дзеці таксама чакаюць пакуль гэта зробяць астат-

нія. Атрымліваецца цяжкае для дзяцей працяглае чаканне, без усякіх заняткаў. Лепш калі ўмыванне праходзіць маленькімі групкамі. Дзеці, якія закончылі гульню, заняткі, або раней адзеліся пасля сну, мыюць рукі і спакойна ўсаджваюцца за стол. Так паступова праходзіць уся група. Для таго каб паскорыць умыванне неабходна ў дзіцячым садзе мець вялікую колькасць умывальнікаў, што значна паскорыць умыванне. У той час калі праводзіцца чыстка зубоў, або паласканне рота, трэба да ўмывальнікаў дадаткова ставіць на табурэтках 2—3 тазікі.

## Яда

Ядуць дзеці ў дзіцячым садзе ад двух да чатырох разоў. На гэта траціцца многа лішняга часу, бо яда часта праходзіць недастаткова арганізавана.

Перш за ўсё нельга дапускаць, каб дзеці садзіліся за стол, калі пакой не прыбраны і цацкі і матэрыялы ў беспарадку. Раней чым садзіць дзяцей **за стол,** неабходна старанна прыбраць пакой, бо неахайная абстаноўка дзейнічае на дзяцей узбуджальна.

Ужо з малодшай групы дзеці прывучаюцца дапамагаць кіраўніцы ў накрыванні на стол. Кожны раз кіраўніца павінна сама праверыць ці ўсё ў парадку, каб на стале было ўсё патрэбнае, каб дзецям не прыходзілася чакаць, каб не было доўгіх прамежкаў паміж падачай першай і другой стравы, што прыходзіцца назіраць у многіх дзіцячых садах. Раздаваць яду павінен сам педагог. Пры гэтым пачынаць раздачу трэба тады, калі за сталамі спакойна. На практыцы-ж назіраюцца дзве крайнасці: «Я не пачну раздаваць суп, пакуль не будзе зусім ціха»,—заяўляе педагог. Дзеці прыціхаюць. Кіраўніца чакае. Зноў пачынаюцца размовы, кіраўніца зноў паўтарае сваю заяву—і так без канца. У выніку суп разліваецца пры даволі вялікім ўзбуджэнні стомленых бесперапынным стрымліваннем дзяцей.

Захоўванне поўнай цішыні (ні аднаго гуку, ні аднаго шораху) зусім не ўласціва малым дзецям, і дабівацца гэтага—значыць патрабаваць ад іх немагчымага. Важна, каб было спакойна.

Аднак не трэба ўдавацца і ў другую крайнасць. Кіраўніца пачынае раздаваць абед або снеданне ў той час, калі за сталом надзвычайна шумна; дзеці крычаць, сварацца, стукаюць лыжкамі па талерках. Тут спакойная і цвёрдая заява кіраўніцы, што яна будзе разліваць суп, калі дзеці супакояцца,—дзейнічае супакойваюча.

Раздача стравы павінна праходзіць па магчымасці хутчэй. Талеркі з супам ні ў якім выпадку не павінны разносіць самі дзеці. Міскі з супам ставяцца на стол і кіраўніца сама ставіць перад кожным дзіцем талерку. У першую чаргу яду неабходна падаваць тым дзецям, якія ядуць павольна, бо кожнае дзіця звычайна пачынае есці адразу-ж, як толькі яму пададуць страву, не чакаючы пакуль раздадуць усім.

Ці павінны дзеці маўчаць у час яды? «Калі я ем, я глух і нем»—патрабуюць ад дзяцей некаторыя кіраўніцы, забараняючы ўсякія размовы за ядой. Для дзяцей гэта зусім ненатуральна. Нельга размаўляць з кавалкам у роце, але стрыманая негалосная размова адзін з другім і з кіраўніцай, пакуль пададуць яду, у прамежках паміж першай і другой стравай, зусім дапушчальна і нават неабходна. Яна стварае спакойную таварыскую абстаноўку. Дзеці дзеляцца тут уражаннямі, што дае кіраўніцы магчымасць вывучаць дзяцей, удакладняць іх паняцці і прадстаўленні.

## Прагулка

«Дзеці, параісці гуляць»,—аб'яўляе кіраўніца. Дзеці шумна і неарганізавана кідаюцца ў раздзявальні... Шум, крыкі, неразбярыха... Каб унікнуць гэтага, кожная група павінна мець свой пэўны час выхаду на прагулку. Так, малодшая група выходзіць на 15 мінут раней, чым сярэдняя, сярэдняя на 15 мінут раней, чым старэйшая. Гэтым самым унікаецца скапленне груп у раздзявальні. У раздзявальню дзеці прыходзяць або пастроіўшыся папярэдне ў групавым пакоі, або паступова. Адзеўшыся, дзеці адразу павінны выходзіць на двор або на пляцоўку і там дзяжурная кіраўніца, тэхнічная працаўніца, або дзяжурная матка сустракаюць іх. Вялікую ўвагу неабходна ўдзяліць узаемаадносінам дзяцей пры адзяванні: памагчы адзін аднаму зашпіліць гузікі, завязаць шарф і т. п.

## Сон

Укладванне дзяцей спаць асабліва затрудняе многіх кіраўніц. «Усё, здаецца, як быццам нічога: уладаю дзецьмі, але вось, як укладваць іх спаць—усё мяняецца. Паслухмяныя дзеці становяцца дзікімі і неарганізаванымі»,—скардзіцца кіраўніца. Для таго каб гэты важны ў справе аздараўлення дзіцячага калектыва момант праходзіў арганізавана, неабходны наступныя ўмовы: дзяцей у спальні павінна сустракаць кіраўніца; гаварыць у спальні не дазваляецца. У час сну дзяцей кіраўніца не павінна выходзіць з пакоя, яна абыходзіць дзяцей, ціха робіць заўвагі, папраўляе коўдрачкі, супакойвае. Калі дзеці супакояцца, ціха садзіцца і не выходзіць з пакоя, пакуль дзеці не ўстануць. Калі гэтыя ўмовы кіраўніца будзе выконваць з першых-жа дзён прабывання дзяцей у дзіцячым садзе, яны скора прывучацца да ўстаноўленага парадку і сон праходзіць арганізавана.

## Уход дзяцей

Пры ўходзе дзяцей дамоў таксама павінен захоўвацца пэўны парадак. Дзіця павінна закончыць пачатую работу: усё прыбраць на месца, развітацца з кіраўніцай і дзецьмі, акуратна адзецца, павесіць халат і мяшок для галош на адведзенае месца.

## Заняткі па свабоднаму выбару дзяцей

Гульні і заняткі, якія дзеці выбіраюць па сваёй зацікаўленасці і жаданню, маюць для арганізацыі дзіцячага калектыва вялікае значэнне. Але і тут дзеці павінны выконваць пэўныя патрабаванні. Пры гэтай умове свабодныя гульні і заняткі ў яшчэ большай меры дапамагаюць наладжванню парадку ў дзіцячым садзе. Перш за ўсё дзеці прывучаюцца, што для іх заняткаў у дзіцячым садзе адводзіцца пэўны час. Што рабіць, калі дзеці не скончылі гульню, а трэба ісці на прагулку, або дзеці не скончылі чытання ці рысавання, якое яны пачалі па ўласнай ініцыятыве, а ўжо пара абедаць? У такіх выпадках свабодныя заняткі дзяцей можна спыніць, паколькі гэта робіцца ў інтарэсах дзяцей, іх здароўя. Але рабіць гэта трэба не рэзка, а спакойна і асцярожна, аб'ясніўшы дзіцяці, чаму неабходна захоўваць рэжым. Вельмі лёгка ўдаецца адцягнуць дзяцей ад гульні для яды або прагулкі, калі кіраўніца аб'яўляе прагулку, не перапыняючы гульні дзяцей. Напрыклад, дзеці гуляюць у поезд. Кіраўніца аб'яўляе: «Прыехаўшы на станцыю (Маскву, Менск) пойдзем на экскурсію, на прагулку». Дзеці, не перапыняючы гульні, ахвотна падымаюцца і вы-

ходзяць на двор. Апрача таго, трэба ствараць такія ўмовы, пры якіх дзеці маглі-б пасля яды або прагулкі прадаўжаць пачатую работу або гульню. Для гэтага ў групавым пакоі павінна быць паліца, або маленькая шафка для незакончаных работ. Папярэдзіўшы дзяцей аб неабходнасці закончыць работу, кіраўніца павінна пакідаць для гэтага накаторы час. Трэба прывучаць дзяцей да пэўнага месца для кожнага віду заняткаў: гуляць у гульнявым кутку, майстраваць што-небудзь у рабочым кутку; чытаць, пісаць, гуляць у лато, разглядаць кніжку у кутку спакойных заняткаў і інш. Для гэтага адпаведным чынам павінен быць арганізаваны групавы пакой.

Уся абстаноўка і ўмовы жыцця ў дзіцячым садзе павінны быць накіраваны да таго, каб дзеці гулялі і займаліся не па аднаму, індывідуальна, а калектыўна, аб'ядноўваючыся на агульнай гульні і агульных занятках. Вялікае значэнне пры гэтым мае арганізацыя абсталявання ўстановы—падбор такіх цацак, дапаможнікаў, матэрыялаў, якія самі па сабе накіроўваюць дзяцей на неабходнасць аб'яднання. Дзеці будуць гуляць і займацца калектыўна ў тым выпадку, калі яны атрымаюць адпаведныя ўражанні з акружаючага асяроддзя (знаёмства з вытворчасцю, піонерамі, сувязь з іншымі дзіцячымі ўстановамі, цікавая кніга, расказ і інш.), калі іх да гэтага накіроўвае кіраўніца, прапануючы «пагуляць разам», адзначаючы як добра, весела гуляць і займацца дзецям разам. У сярэдняй і старэйшай групах кіраўніца дапамагае аб'ядначца, згаварыцца, арганізавацца. Пры гэтым важна, каб дзеці прывучаліся згаварвацца, размяркоўваць паміж сабой абавязкі, работу, каб у іх выхоўваліся ўзаемадапамога, таварыскія адносіны. Трэба папярэджваць сваркі паміж дзецьмі, што зусім магчыма, калі кіраўніца своечасова дапамагае дзецям указаннем, парадай і паказам.

Калектыўнае аб'яднанне дзяцей у гульнях і свабодных занятках ні ў якім выпадку не адзначае аднак, што дзіця не можа пазаймацца, пагуляць адно. Гэта не толькі магчыма, але і неабходна. Прабыванне ў калектыве стамляе дзіця, яму неабходзен адпачынак. Добра калі-б у дзіцячым садзе быў невялікі пакой для свабодных, спакойных заняткаў, ціхіх гульняў. Калі-ж такога пакоя няма, то ў групавым пакоі павінен быць адведзен для гэтай мэты куток, па магчымасці ізаляваны, у якім дзіця магло-б спакойна заняцца. Такія індывідуальныя работы павінны праходзіць пад непасрэдным і абавязковым наглядам і кіраўніцтвам з боку педагога.

Усе дзеці павінны быць прывучаны да таго, каб не перашкаджаць таварышам у індывідуальнай гульні і рабоце.

У свабодных гульнях і занятках дзеці павінны таксама беражліва адносіцца да цацак, мэблі, матэрыялаў, як і ў устаноўленых занятках. Нядбайныя адносіны да рэчаў дзяцей выяўляюцца ў тым, што яны часта з усяго размаху кідаюць будаўнічы матэрыял, цацкі, рвуць кніжкі, ломяць крэслы, у час сваіх свабодных заняткаў счэрчваюць сталы, сцены. З гэтым трэба весці рашучую барацьбу. Кіраўніца павінна за ўсім гэтым пільна сачыць, своечасова накіроўваць дзяцей, даваць ім правільныя ўстаноўкі, прывучаць іх да правільнага карыстання рэчамі, да беражлівых, свядомых адносін да рэчаў і цацак.

## Устаноўленыя па плану заняткі

Ужо з малодшай групы дзеці павінны прывучацца да арганізаванай калектыўнай работы. «Мы сёння ўсе будзем рысаваць або ляпіць, або паслухаем расказ»,—прапануе кіраўніца дзецям. Супольнасць гэтых заняткаў арганізуе дзіцячы калектыў. Усе разам пачынаюць і адначасова

канчаюць заняткі. Гэта прывучае дзяцей да парадку і неабходна ў мэтах падрыхтоўкі дзяцей да школы. Падрыхтоўка матэрыялу і абсталявання для заняткаў праводзіцца кіраўніцай з паступовым прыцягненнем да гэтага і дзяцей. У малодшай групе гэта будзе пераважна работа індывідуальная, калі напрыклад: к сьвяту робяцца флажкі, то кожнае дзіця робіць асобны флажок.

Калі ў дзяцей умацуюцца некаторыя працоўныя і арганізацыйныя навыкі, у старэйшай групе і часткова ў сярэдняй можна паступова прывучаць дзяцей дзяліць работу: адны падрыхтоўваюць палачкі, другія разразаюць матэрыю або паперу, трэція прыклейваюць яе да палачак.

Пры такім правядзенні калектыўнай работы ў дзяцей выхоўваецца адказнасць за ўзятую частку работы: не выканаеш свайго задання—затрымаеш работу таварышоў. На групы дзеці падзяляюцца па свайму жаданню.

У арганізаваных занятках трэба дабіцца, каб дзецям была зразумела агульная мэта работы, каб кожны меў работу і стараўся зрабіць яе лепш, каб адзін другому не перашкаджаў, адзін другому аказваў дапамогу.

Каб заняткі прайшлі арганізавана трэба каб:
кіраўніца загадзя прадумала арганізацыю работы і сама да яе падрыхтавалася,
сама работа была цікавай, зразумелай і пасільнай ёй,
кожнае дзіця было занята, мела нейкую частку работы,
усё патрэбнае для работы было загадзя падрыхтавана.

Вельмі важна перад пачаткам работы азнаёміць дзяцей з тым, што трэба зрабіць, як правесці работу. У старэйшай групе можна разам з дзецьмі спланаваць тую ці іншую работу, г. зн. дагаварыцца з дзецьмі, што яны будуць рабіць, які ім патрабуецца матэрыял, хто з кім будзе працаваць.

Праводзячы агульную калектыўную работу з дзецьмі, кіраўніца павінна заўсёды памятаць аб тым, чаго нельга дапускаць, каб у калектыўнай рабоце абязлічвалася кожнае паасобнае дзіця. З аднаго боку, кожнае дзіця павінна ў агульнай рабоце развіваць свае індывідуальныя асаблівасці і ісці ўперад, а з другога—яно з малых год павінна прывучацца адказваць за сябе, за сваю работу. Таму чоткія індывідуальныя заданні, адказнасць за іх выкананне, строгі ўлік і кантроль з боку кіраўніка павінны праводзіцца ў калектыўных арганізаваных занятках як у адносінах усёй групы, так і кожнага дзіцяці паасобку.

## Навыкі калектыўнага жыцця ў дзяцей

Побач з работай па выхаванню ў дзяцей навыкаў арганізаванасці і калектывізма, неабходна з дашкольнага ўзросту выхоўваць у іх навыкі бытавога парадку: вітацца, развітвацца, дзякаваць за аказаную ўслугу, умець выслухоўваць размову другога, не перашкаджаць, не перабіваць, адказваць ахвотна і далікатна, аказваць пасільную дапамогу і ўслугу, гаварыць звычайным голасам, не крычаць, чакаць сваёй чаргі, не вырываць у другога цацак, а папрасіць іх і інш. Захоўваць чыстату ў памяшканні, сачыць за чыстатой сваёй вопраткі, абутку, карыстацца насавой хустачкай, не пляваць на падлогу, адварачвацца ў бок і прыкрываць рот у час кашлю. Спакойна, у баку ад прысутных ачышчаць нос. Гэтыя і многія іншыя культурна-гігіенічныя навыкі неабходны для жыцця ў калектыве.

Таксама дзеці павінны прывучацца аказваць дапамогу малодшым. Кіраўніца павінна з першых-жа дзён прабывання дзяцей у дзіцячым садзе знаёміць іх з правіламі жыцця ў калектыве, сачыць за іх выкананнем, паказваць прыклад, напамінаць, указваць.

Асабліва важнае значэнне пры гэтым мае культурная абстаноўка дзіцячага сада. У дарослых, якія акружаюць дзіця, павінны быць навыкі культурных паводзін, культурны выгляд, манеры, мова. Дзеці шляхам пераймання засвойваць іх. Няправільна, калі педагог, каб навучыць дзяцей вітацца або дзякаваць, прымушае іх хорам і часта на распеў гаварыць: **«Добры дзень»**, **«Дзякуем»**. Гэта для дзяцей не натуральна. Важна, каб перш за ўсё педагогі і дарослыя, якія акружаюць дзяцей, кожны раз па прыходзе ў дзіцячы сад віталіся, тады і дзеці таксама пачынаюць вітацца.

Вось раніцой прышла кіраўніца. «Добры дзень, дзеці»,—вітае яна дзяцей. Праз некаторы час уваходзіць Зося і нясмела гаворыць: «Добры дзень». «Добры дзень, Зося»—ветліва і голасна, каб усім дзецям было чуваць, адказвае ёй кіраўніца. А вось уваходзіць Янка і моўчкі ідзе да будаўнічага матэрыялу «Добры дзень, Янка»,—зварочваецца да яго кіраўніца. «Што-ж ты, Янка, не вітаешся: ты-ж яшчэ нас не бачыў». Так з дня ў дзень непрыкметна, але няўхільна ўплывае кіраўніца на дзяцей, выхоўваючы ў іх навыкі грамадскіх паводзін.

## Дзяжурства

Малодшыя дзеці ў дзіцячым садзе не маюць ніякіх грамадскіх абавязкаў, бо яны спачатку павінны асвоіцца з новай абстаноўкай і прывыкнуць да парадкаў у дзіцячым садзе. Але паступова дзіця прывучаецца да калектыўнага жыцця, да парадку, да прад'яўляемых патрабаванняў. Яно зацікаўліваецца работай кіраўніцы, тэхнічных служачых, пачынае па крыху ім дапамагаць. Накрываючы стол, прыбіраючы пакой, падрыхтоўваючы матэрыял, кіраўніца запрашае ўжо на дапамогу дзяцей. Гэта зацікаўлівае дзяцей, і яны адно за другім уключаюцца ў работу. Колькасць дзяцей, якія хочуць дапамагчы кіраўніцы, урэшце так павялічваецца, што ёй прыходзіцца ўстанаўліваць чаргу—**дзяжурства.** Такім чынам дзяжурствы выцякаюць з самога жыцця дзяцей—яны зразумелы і цікавы.

Дзяжурства як пэўная работа, якая выконваецца дзецьмі па чарзе, па пэўнаму спісу—уводзіцца ў 5-гадовым узросце. У гэтай групе дзяжурствы павінны быць не больш двух відаў, напрыклад «па сталу», «па кутку прыроды». Спачатку ўводзіцца дзяжурства «па сталовай», а калі дзеці з ім асвояцца, прыкладна к канцу года, можна ўвесці і другі від дзяжурства. У дзяцей 6-гадовага ўзросту прыбаўляецца дзяжурства па «ўмывальнаму кутку», «па матэрыялах», або якое-небудзь іншае, у залежнасці ад патрэбнасці жыцця данага дзіцячага калектыва.

У старэйшай групе колькасць відаў дзяжурстваў павінна быць не больш 3—4 (па сталовай, па матэрыялах, па кутку прыроды і інш.). На кожны від дзяжурства намячаецца двое дзяцей.

Каб работу дзяжурных зрабіць больш цікавай, яе трэба добра абсталяваць, рацыяналізаваць, ускладняць патрабаванні, прад'яўляемыя да дзяцей, па магчымасці ўводзіць розныя тэхнічныя ўдасканаленні (электрычныя печкі, электрычныя ўцюгі, сталы на колах для перасоўвання пасуды, прыстасаванне для сушкі пасуды і т. п.). Вялікае значэнне маюць адзнакі дзяжурных: значкі для напамінання, хто сёння дзяжурыць, фартушкі, спецыяльныя павязкі, нарукаўнічкі, халацікі, якія адрозніваюць дзяжурных ад усіх дзяцей.

Кіраўніца абавязкова павінна ўдзельнічаць у рабоце разам з дзяжурнымі, каб у іх стварыліся правільныя навыкі, каб яны даводзілі работу да канца, выконвалі яе старанна, з поўнай адказнасцю.

У старэйшай групе (6—7 год), калі дзеці дастаткова засвоілі навыкі работы па дзяжурству, для выканання работы па самаабслугоўванню можа быць выдзелена група з двух-трох чалавек на больш працяглы час (5 дзён) і для выканання некалькі больш складаных заданняў. Такая група можа быць, напрыклад, выдзелена для абслугоўвання:

**рабочага пакоя**—работа па захаванню матэрыялаў, прылад працы, падрыхтоўка іх да заняткаў і інш.;

**кутка прыроды**—догляд раслін, гародніны, птушак, рыб, прыбіранне кутка, падтрымліванне чыстаты, пасадка раслін, набыццё новай спажывы і корму;

**бібліятэчнага кутка** або кутка спакойных заняткаў—удзел у закупцы і папраўцы кніжак і дапаможнікаў, выдача кніжак, дапаможнікаў, упрыгожванне кніжнай палічкі, або вітрынкі і інш.;

**санітарная работа**—прыбіранне ўмывальнага кутка і аптэчкі, санагляд, клопаты аб вадзе для чысткі зубоў, для ўмывання і інш.

Для паспяховай работы дзяжурных неабходна з дзецьмі кожны раз намячаць план работы, ставячы невялікія выразныя заданні для выканання. Так дзяжурныя па бібліятэчнай рабоце намячаюць на пяцідзёнку выпісаць «Іскры Ільіча», «Мурзилку», «Искорку», паправіць 3 парваныя кніжкі, напісаць лозунг «Беражы кніжку». На наступную пяцідзёнку дзяжурныя ў новым саставе намячаюць: абмяняць кнігі ў бібліятэцыперасоўцы, зрабіць яшчэ адну вітрыну для кніжак і т. д.

Работа паміж дзяжурнымі размяркоўваецца так, каб кожны меў пэўнае заданне. Кіраўніца няўхільна сочыць за тым, каб работа праводзілася з усёй стараннасцю і адказнасцю.

Кіраўніца павінна сачыць, каб усе дзеці прайшлі ўсе віды дзяжурстваў, да работы адносіліся добрасумленна, старанна яе выконвалі. Каб лепш зацікавіць дзяцей дзяжурствамі, для дзяжурных трэба зрабіць адпаведныя значкі.

Для таго, каб бачыць работу дзяжурных кожную мінуту, кіраўніца павінна старанна прадумаць час работы іх на працягу дня. Зусім не абавязкова, каб усе дзяжурныя працавалі адначасова. Так, догляд раслін і жывёл лепш за ўсё праводзіць раніцой, па прыходзе дзяцей; у рабочым кутку дзяжурным лепш за ўсё працаваць у канцы дня.

Усе новыя моманты ў змесце і формах работы дзяжурных, усякія ўскладненні кіраўніца павінна старанна прадумваць і абмяркоўваць з астатнімі членамі калектыва ўстановы, а таксама з работнікамі іншых садоў, а калі ёсць магчымасць—з інструктарам метадыстам.

Адным з прыёмаў, дапамагаючых арганізацыі дзіцячага калектыва, з'яўляюцца гутаркі арганізуючага характару. Такія гутаркі праводзяцца з мэтай выхавання ў дзяцей свядомых адносін да правіл жыцця дзіцячага сада.

Гутаркі гэтыя ні ў якім выпадку не павінны мець выгляду сходаў. Гэта—звычайная гутарка, у час якой дзеці вучацца выказваць сваю думку, выслухоўваць таварыша. Тут не патрэбны ні старшыня, ні сакратар: гэтыя абавязкі для дзяцей непасільны. Не патрэбна таксама галасаванне: яго значэння дзеці яшчэ не разумеюць. Кіраўніца навадзячымі пытаннямі, заўвагамі ўцягвае ўсіх дзяцей у абмеркаванне пытанняў, падводзіць да пэўнага загадзя намечанага ёю рашэння. На такіх гутарках не павінна абгаварвацца больш аднаго пытання. Рашэнні павінны прымацца чоткія і даступныя для выканання. Кіраўніца павінна сачыць, каб прынятыя рашэнні няўхільна праводзіліся ў жыццё.

У малодшай групе замест такіх гутарак час ад часу праводзіцца невялікі згавор: «Што нам зрабіць, каб цацкі не валяліся на падлозе». «Як карыстацца цацкамі» і інш.

У сярэдняй і старэйшай групах дзеці ўжо часцей прыцягваюцца да абгаварэння правіл—арганізацыі жыцця груп: «Як мы будзем праводзіць свята першага Мая». «Як мы будзем працаваць на гародзе», «Што трэба зрабіць, каб у раздзявальні не было штурханіны і шуму».

У малодшай групе прапановы, галоўным чынам, выходзяць ад кіраўніцы: «Давайце, дзеці, будзем разам прыбіраць сад».

У сярэдняй і старэйшых групах кіраўніца прапануе дзецям: «Падумайце, дзеці, як лепш зрабіць», «А што ты, Пеця, скажаш?». «Паслухаем, дзеці, што Ліда прапануе». Працягласць такіх гутарак у сярэдняй групе да 5 мінут і ў старэйшай да 10 мінут.

Такая прыкладна, работа павінна праводзіцца па арганізацыі дзіцячага калектыва і наладжання парадку.

Што-ж павінна рабіць кіраўніца ў выпадках парушэння патрабаванняў парадку?

У практыцы ў такіх выпадках звычайна прымяняюцца недапушчальныя меры ўздзейнічання: дзяцей садзяць за асобны стол, выводзяць з пакоя, не даюць цацак, устраняюць ад агульных заняткаў і нават часамі выключаюць з дзіцячага сада. Часамі кіраўніцай для наладжвання парадку выкарыстоўваюцца такія сродкі, як крыкі, пагрозы, насмешкі, запужванне. Усе гэтыя меры толькі запужваюць дзяцей, ствараюць у дзіцячым садзе нервовую абстаноўку і не толькі не прыгодныя, але і шкодныя. Нярэдка ў дзіцячых садах можна назіраць і такія выпадкі. Вы ўваходзіце ў пакой... Дзеці абедаюць за агульным сталом. За асобным столікам сядзіць хлопчык. «Ты чаго-ж гэта адзін сядзіш?—звяртаецеся вы да яго». «Я пакараны»,—спакойна адказвае дзіця.

Калі ў дзіцячым садзе наладжан парадак, калі дзеці для гульняў і заняткаў маюць рознастайны і цікавы матэрыял, калі іх інтарэсы знаходзяць задавальненне у яркай, красачнай эмацыянальнай дзейнасці, калі дзецям весела, калі яны заняты гульнёй, працай, калі ў садзе наладжана спакойная абстаноўка,—парушэнне парадку, як правіла, з'яўляецца адзінкавымі выпадкамі.

Для стварэння спрыяючых умоў для работы з дзецьмі кожная кіраўніца і ўся ўстанова ў цэлым павінны паклапаціцца аб рознастайным матэрыяле для гульняў і заняткаў дзяцей і стварэнні спакойнай абстаноўкі для работы. Трэба старанна абдумваць усю абстаноўку дзіцячага сада, каб нават у сцесненых умовах (што мы маем у некаторых выпадках), наладзіць для кожнай групы ізаляваны спакойны куток.

Кіраўніца павінна вывучаць і ведаць асаблівасці кожнага дзіцяці і ў адпаведнасці з гэтым наладжваць сваю работу. Лёгка ўзбуджальных дзяцей педагог павінен заўсёды мець на ўвазе і пры арганізацыі кожных заняткаў, кожнага моманту спецыяльна падумаць аб іх і спланаваць для іх асобны матэрыял, іх ролю, месца, работу і т. д.

Калі прафілактыка (меры папярэджання) у лячэнні патрэбна, то ў выхаванні яна неабходна. Лёгка ўзбуджальных дзяцей непрыкметна для іх саміх кіраўніца павінна накіроўваць так, каб яны былі разам з найбольш ураўнаважанымі дзецьмі, якія-б уздзейнічалі на іх арганізуючым чынам. Ложак такога дзіцяці трэба ставіць у больш спакойнае месца, побач са спакойным суседам, бліжэй да кіраўніцы. У час работы і яды яго ўсаджваюць за невялікі стол, дзе менш дзяцей, дзе менш усяго раздражаючых, адцягваючых стымулаў. На прагулцы такое дзіця ідзе ўпе-

радзе: яго сазнанне занята адказнасцю становішча важака і на яго не так дзейнічаюць іншыя раздражальнікі.

Яшчэ ў дашкольным узросце ў дзецях неабходна выхоўваць асновы свядомых адносін да ўсіх патрабаванняў калектыўнага жыцця, да ўсіх правіл жыцця ў калектыве. Вышэй ужо гаварылася, што дзяцей трэба паступова прыцягваць да абмеркавання правіл сумеснага жыцця, да ўсведамлення імі разумнасці і неабходнасці гэтых правіл. Вялікае значэнне ў справе выхавання свядомых адносін да правіл установы мае прыклад дарослых, піонераў, уплыў на дзяцей грамадскіх падзей. Тут шырока павінны быць выкарыстаны дзіцячыя кніжкі, мастацкае расказванне, песні, ілюстрацыі.

Аднак у кожнай групе ўсё-ж могуць быць асобныя моманты парушэння парадку. Што рабіць у такіх выпадках? Перш за ўсё неабходна па-асобаму падысці да кожнага выпадку, да кожнага асобнага дзіцяці. Неабходна выясніць прычыну паводзін дзіцяці. Часамі прычына гэтага агульны хваравіты стан здароўя дзіцяці, або дзіця дрэнна сябе адчувае ў гэты дзень. Калі дзіця хворае толькі ў гэты дзень, то яго трэба адправіць дадому, калі хвароба носіць працяглы характар, яго неабходна змясціць у лячэбную ўстанову. Другой прычынай дрэнных паводзін дзіцяці з'яўляюцца ўмовы жыцця дзіцяці ў сям'і. Яго напрыклад павялі напярэдадні ў кіно для дарослых, усхваляванае дзіця не спала ўсю ноч, а ў рэзультаце яно выбіта з каляіны.

Найчасцей парадак парушаюць найбольш развітыя дзеці, калі заняткі для іх не цікавы. Для такіх дзяцей павінен быць асобы падыход і асаблівая ўвага звяртаецца на падбор для іх цікавага матэрыялу. Гэтыя дзеці любяць быць важакамі, арганізатарамі, і кіраўнік час ад часу павінен даваць ім магчымасць праяўляць свае здольнасці. Гэта дапаможа зрабіць іх узорам арганізаванасці.

Пры парушэнні парадку ў кожным паасобным выпадку трэба ўздзейнічаць на сазнанне дзіцяці і шляхам пераканання без доўгіх, нудных навучанняў указаць дзіцяці на шкоднасць яго ўчынка, падмацаваўшы гэта якім-небудзь яркім прыкладам з жыцця. Пры гэтым з дзецьмі, якія парушаюць парадак, гутарыць трэба спакойна, без крыку і пагроз. Лепш ў кожным выпадку разам з ім выясніць, чаму ён так зрабіў і чаму так рабіць нельга.

Важна таксама стварыць у дзіцяці ўпэўненасць у тым, што яно можа зрабіць правільна, што яго дрэнны ўчынак выпадковы. А на практыцы-ж у такіх выпадках кіраўніца падкрэслівае: «Ах ты зноў набедакурыў, ды ад цябе-ж лепшага і чакаць няма чаго». Гэта вялікая памылка. У дзіцяці у выніку гэтага ствараецца ўпэўненасць у сваёй уласнай непапраўнасці.

Нельга таксама ўчынак дзіцяці рабіць прадметам грамадскага суда. Як правіла дзеці дашкольнікі яшчэ не могуць быць суддзямі ўчынкаў сваіх таварышоў. Меры барацьбы, якія яны звычайна прапануюць, надзвычай суровыя і не адпавядаюць зробленаму ўчынку.

Зусім недапушчальным з'яўляецца выключэнне дзіцяці з дзіцячага сада за які-небудзь дрэнны ўчынак. Выключэнне дзіцяці з дзіцячага сада, адсыланне яго бацькам допускаецца толькі ў выпадку, калі дзіця па стану здароўя патрабуе спецыяльнага лячэння і выхавання (адсталасць, нервовае расстройства, псіхічнае захворванне). У такіх выпадках выключэнне робіцца на падставе заключэння ўрача і па ўзгадненню з Аддзелам Народнай асветы.

У совецкім дзіцячым садзе забаронены і строга караюцца па закону ўсякія фізічныя пакаранні і запужванне дзяцей (біць, ставіць у вугал, садзіць у цёмны пакой, ванную, пакідаць без яды, сну, і інш.).

Самае важнае для кіраўніцы знайсці падыход да дзіцяці і да ўсяго дзіцячага калектыва, заслужыць давер'е, любоў і аўтарытэт дзяцей, а гэта магчыма толькі пры тых умовах, калі кіраўніца спакойная, дзелавітая, калі ўсе яе патрабаванні чоткія, пэўныя і зразумелыя для дзяцей, а сама яна дае прыклад іх выканання.

Як можа кіраўніца прад'яўляць дзецям патрабаванні, калі яна сама ў прысутнасці дзяцей іх парушае? Як яна можа патрабаваць каб дзеці ў час яды не крычалі, не гаварылі, калі яна сама ў час яды ў прысутнасці дзяцей гаворыць павышаным голасам, размаўляе і т. д.? Зразумела, што адносіны дзяцей да такіх патрабаванняў будуць несур'ёзныя.

Са строгасцю і патрабаваннем кіраўніца павінна спалучаць мяккасць і любоўныя адносіны да дзяцей, прыглядацца да іх патрэб, пытацца і ведаць, што робіць дзіця па-за дзіцячым садам, уважліва з цікавасцю адносіцца да ўсіх яго маленькіх запросаў, замыслаў, гора і радасці, умець пасмяяцца разам з дзіцём і разам з ім пагараваць.

Вялікае значэнне для зблiжэння кіраўніцы з дзецьмі мае сумеснае жыццё з дзецьмі ў летняй калоніі, час укладвання дзяцей спаць, вячэрняя работа, калі ствараецца больш утульная абстаноўка. Любоў і аўтарытэт лягчэй заслугоўваецца ўмелым педагогам, які ўмее і ведае як падаць дзецям матэрыял. Кіраўніца, якая добра ўмее расказаць, арганізаваць цікавыя працоўныя заняткі, цікавую гульню і т. д. лягчэй аўладае дзецьмі. лягчэй заслужыць іх любоў і давер'е.

Адносіны кіраўніцы да ўсіх дзяцей павінны быць роўныя. Тон яе мовы павінен быць спакойны, дружалюбны, але цвёрды і заўсёды ўпэўнены. Калі нават кіраўніца ў даны момант у правільнасці свайго патрабавання сумняваецца, яна ўсё-ж перад дзецьмі не павінна паказаць сваіх сумненняў.

Дзіця павінна бачыць у кіраўніцы старэйшага, аўтарытэтнага таварыша, які ведае сваю справу, умее даць ім цікавыя заняткі, стварыць дружную работу ўсяго калектыва.

Калі кіраўніца працуе над сабой і ў выніку гэтага здолее стаць такім аўтарытэтам для дзяцей,—яна, безумоўна, аўладае дзецьмі ва ўсіх выпадках жыцця, зможа наладзіць арганізацыю дзіцячага калектыва, стварыць спакойную, радасную абстаноўку і featuresрознастайнае, цікавае для дзяцей жыццё ў дзіцячым садзе.

---

*Pietrowa*

# Uwagi o wykładaniu literatury w szkołach polskich

W szkołach polskich znajomość języka polskiego znacznie się polepszyła. Poprawne władanie językiem przez uczących się zależy od nauczyciela—jeżeli nauczyciel dobrze zna język i metodę wykładania, a pracuje uczciwie, to i uczniowie umieją się wypowiadać i piszą poprawnie.

Gorzej przedstawia się sprawa z wykładaniem literatury polskiej. Dotychczas nie wyszedł dla szkół polskich ani jeden podręcznik z literatury pięknej, a dla 7-ej klasy niema nawet wypisów; program literatury dla klas starszych też jest nieodpowiedni.

W takich warunkach trudno, oczywiście, wykładowcom literatury polskiej pracować, tem bardziej, że nie mamy ani marksistowskiej krytyki literatury polskiej, ani teorji literatury. Do projektów także należy sprawa wydania bibljoteczki klasyków polskich.

W związku z tem nauka literatury polskiej w naszych szkołach stoi na daleko niższym poziomie, niż w szkołach rosyjskich nauka literatury rosyjskiej. W większości naszych NSzŚ nauczanie literatury odbywa się w następujący sposób: uczniowie czytają utwory, lub urywki większych utworów, nauczyciel zaznajamia ich z biografją autora i robi rozbiór danego utworu tylko z punktu widzenia jego wartości społeczno-wychowawczych. Oczywiście, taki sposób wykładania nie może nas zadowolić, gdyż nasi młodzi pedagodzy za słabo są przygotowani, by dokonać właściwego rozbioru historycznego i estetycznego utworu, przeto rozbiór ich jest zbyt prymitywny, naprz. „Przedstawicielem jakiej klasy jest Reymont? Jak żyli chłopi w Polsce i jak ich wyzyskiwali? Jak w tym wyzysku pomaga im kler? Jak teraz żyją chłopi w Polsce?“ Przytem nauczycielka nie ilustruje swojej pogadanki konkretnemi przykładami z rozpatrywanego utworu, a przeprowadza pogadankę jako wstęp. Czytając utwór Reymonta „Tomek Baran“, w którym jest sporo słów dla uczniów niezrozumiałych, jak naprz.: „mizeracja, skapiało, zgrzebło, ciągotki, biesiadny stół, obserwant“ i t. d., nauczycielka ich nie objaśnia. Po takiem opracowaniu odpowiedzi uczniów są szablonowe, naprz.: „Chłopom w Polsce źle się powodziło, byli oni bardzo ciemni i nieuświadomieni. W Polsce było bezrobocie. Ksiądz pomagał burżuazji wyzyskiwać chłopów. Reymont był pisarzem burżuazyjnym“ i t. d. bez umotywowania tych twierdzeń przykładami z opracowanego utworu. (5 klasa, Niegorełoje). Lekcja taka jest nieciekawa, nudna, bezduszna. W 6-ej klasie tejże szkoły lekcja o Bolesławie Prusie była ciekawiej ułożona, gdyż omawiano takie zagadnienia jak: „Co chciał pokazać Prus przez swój utwór „Powracająca fala“? Z czem walczy Prus w tem opowiadaniu? Co oznacza tytuł i koniec tego opowiadania „Fala krzywdy wróciła“? Kto jest typem dodatnim

w pojęciu Prusa? W czem uwidacznia się nacjonalizm Prusa? Czy Bolesław Prus pokazuje uświadomionych robotników? Dodatnie strony spuścizny po Prusie".

Ale dalej nauczycielka przebrała miarę, gdyż zupełnie niepotrzebnie mówiła dzieciom niezrozumiałe dla nich rzeczy o teorji rozwoju ekonomicznego i o kwestji polskiej według R. Luksemburg. Prawie w taki sam sposób słyszałam przeprowadzoną lekcję w 33-ej mińskiej szkole, jedynie nauczycielka zwracała więcej uwagi na wyraziste czytanie i zrozumienie treści. Zdarzają się jednak jeszcze gorsze wzory lekcyj literatury; naprz. w chojnickiej szkole na egzaminie uczniowie 6-ej klasy tylko opowiadali treść utworu i w którym w i e k u żył Mickiewicz, Słowacki, Konopnicka i t. d., a dla uczniów 7-ej klasy były pytania tylko jednego typu: „Zrób analizę—rozbiór utworu Broniewskiego „Komuna Paryska", Jasieńskiego „Palę Paryż", „Rzecz gromadzka" i t. p. Z tak ułożonych pytań jedno jest jasne, że ani nauczyciel, ani dyrektor szkoły nie mają pojęcia o rozbiorze utworu literackiego, a mogliby je mieć, gdyby zajrzeli na lekcje do tow. Pokrowskiego w białoruskiej szkole chojnickiej.

Nie bacząc na cały szereg trudności, zdarzają się w niektórych szkołach wzory dobrych lekcyj literatury polskiej. Naprzykład nauczyciel dzierżyńskiej szkoły w 7-ej klasie stara się uczniom dać tło historyczne przerabianego utworu. Zwraca uwagę na język wielkich poetów polskich (Mickiewicza, Słowackiego, Konopnickiej). Dobrze objaśnia alegorję w bajce. Bardzo dobrze podał uczniom obrazowość języka i hiperbolę w „Stepach Akiermańskich" Mickiewicza. Bardzo dobrze zrobił rozbiór „Ojca zadżumionych" Słowackiego, wskazując, że wiersz ten wyraża pesymistyczny nastrój poety po upadku powstania listopadowego.

Prawie wszyscy wykładowcy języka polskiego i literatury w naszych NSzŚ, mają tylko średnie pedagogiczne wykształcenie. A jak jest postawiona nauka literatury i jakie są rezultaty tej nauki, mieliśmy możność przekonać się na ostatnich egzaminach 3-go kursu PTP. Naogół studenci kurs literatury polskiej znają, umiejętnie robią analizę utworów, wskazując wartość poznawczą i momenty wychowawcze oraz środki artystyczno-słowne. Umieją zaznaczyć odrębność jakościową realizmu burżuazyjnego i proletarjackiego, a wyliczając tematykę wielu pisarzy, umieją wykazać różnice w obrazie pisarza burżuazyjnego i proletarjackiego, naprz. Konopnickiej i Broniewskiego, Sieroszewskiego i Jasieńskiego i t. d. Wyróżniała się na egzaminach studentka Hermanowiczòwna, która mówiąc o twórczości Standego, cytowała z pamięci, dobrze wskazywała różnicę między elegją burżuazyjną i „Elegją na śmierć Waryńskiego" Broniewskiego, mówiła o tematyce Mickiewicza i jego środkach artystyczno-językowych, o utworach Słowackiego i jego stosunku do magnaterji. Egzaminy na kursie 3-im PTP dowodzą, że wykładanie literatury polskiej jest postawione nieźle, jedynie uderza bardzo małe oczytanie studentów. Wielu z nich nie zna pomnikowych rzeczy, jak naprz. „Pana Tadeusza", „Pana Balcera z Brazylji", prawie nic nie czytali Słowackiego, Orkana i t. d., co wynika nietylko z tego, że brak jest odpowiednich utworów w bibljotece PTP, ale że studenci nie doceniają znaczenia znajomości literatury pięknej.

Ludowy Komisarjat Oświaty stara się uzupełnić wiedzę pedagogów szkół polskich, urządzając corocznie kursy w czasie wakacyj letnich, jednak radykalnie stan ten zmieni się na lepsze dopiero wtedy, gdy będziemy mieli wykładowców literatury z wyższem wykształceniem. Trzeba zaznaczyć, że egzaminy studentów sekcji polskiej w WIP dowiodły, że teorja i historja literatury polskiej są gruntownie opracowywane. Studenci opowiadali o pisarzu i utworze na odpowiedniem tle historycznem, różniczkowali pisa-

rzy burżuazyjnych. Słusznie podkreślali, że w utworach u różnych pisarzy burżuazyjnych znajdujemy niejednakowe obrazy wsi i chłopów: w „Ogniem i mieczem" walczący chłopi są przedstawieni jako zbuntowana czerń, Prus i Konopnicka bardzo plastycznie opisują ciemnotę i nędzę wsi, Reymont jest piewcą kułaka polskiego i t. p. Studenci wszechstronnie zanalizowali różne utwory literatury polskiej, mówili również i o środkach artystyczno-słownych i o kompozycji. Studenci 1-go kursu dobrze odpowiadali z teorji literatury, jednak nie mogli przytoczyć konkretnych przykładów. Naprz. dobrze mówili o stylu utworu artystycznego, jako stylu klasy panującej, mówili o stylu średniowiecza, o klasycyźmie feodalnym, o romantyźmie burżuazyjnym i o stylu proletarjackim, ale nie umieli zacytować nawet małego urywka dla ilustracji i głębszego zrozumienia. Bardzo pięknie opowiadali o utworach lirycznych: o odzie, elegji, epigramacie, o wierszu lirycznym burżuazyjnym i proletarjackim, ale zacytować napamięć chociażby urywek jednego z tych rodzajów poezji nikt nie umiał. Mówili o rytmie, co to jest jamb, chorej, amfibrach, jednak bez przykładów. Mówili, co to jest dwuwiersz, tercyna, czterowiersz, sekstyna, oktawa, sonet, ale znów bez przykładów i nikt nie umiał odpowiedzieć jaką zwrotką jest napisany „Pan Tadeusz" Mickiewicza, jaka jest różnica między wierszem Słowackiego i Mickiewicza.

Wszystkie prawie odpowiedzi studentów świadczą o tem, że teorję znają, że pojęcie umieją zdefinjować, ale poprzeć je konkretnym przykładem z literatury nie potrafią, również słabo opanowali historję literatury.

W przyszłości musimy bezwzględnie teorję i historję literatury zbliżyć, jako dwie gałęzie jednej nauki historycznej o literaturze.

* * *

Reasumując nasze uwagi stwierdzamy, że z istniejącym stanem i poziomem nauczania w szkołach zgodzić się nie możemy. Musimy starać się wspólnemi siłami wszystkie braki i luki usunąć. Przedewszystkiem trzeba przekonać nasze nauczycielstwo, że znajomość literatury pięknej jest bardzo ważnym czynnikiem wychowania komunistycznego, że znać utwór literacki, to znaczy umieć zrobić jego rozbiór historyczny i estetyczny. Pedagodzy polskich szkół radzieckich powinni wykorzystać wzory i wskazówki metodyczne z literatury rosyjskiej i opublikować lepsze wzory przeprowadzonych przez siebie lekcyj literatury polskiej.

Następnie należy wydać bibljoteczkę klasyków polskich i wypisy z historji literatury, aby nasza masa nauczycielska miała dostatecznie materjału do pracy, a wykładanie literatury postawić na takim poziomie, jakiego żąda od nas partja.

---



РЭДКАЛЕГІЯ { *Дардак, Баршчэўская, Башкевіч, Гурбо, Ляшчынскі, Панкевіч, Фрэйдман (нам. адказнага рэдактара).*

Адрас рэдакцыі: Менск, Дом Урада, Наркомасветы, пак. № 556, тэл. 24-591.

## ЗМЕСТ



Рэдактар—*рэдкалегія*

Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Карэктар *М. Турэцкая*

Здана ў друкарню 14|VIII-35 г. Падпісана да друку 27|IX-35 г. Аб'ём 3¼ друк. арк. Папера $72 \times 105^{1}|_{16}$.
Знакаў у друк. арк. 64 032. Тыраж 7.000 экз. Заказ № 783. Уп. Галоўлітбела №Б 3472.

Друкарня ім. Сталіна, Менск, Энгельса, 2.

